

Л. И. ЯКУНИНА



# СЛУЦКИЕ ПОЯСА





ИЗДАТЕЛЬСТВО АКАДЕМИИ НАУК БССР
МИНСК · 1960



Л. І. ЯКУНІНА



# СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ





ВЫДАВЕЦТВА АКАДЭМІІ НАВУК БССР
МІНСК · 1960

## СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

Ім не пабачыць роднай хаты,
Не ўчуць ім дзетак галасы.
Яны у панскі двор узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Аб шчасці ўжо забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной шляхі у поле,
Шуміць чарэмха ля акна,—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна.
Там так вясёла і прыгожа:
Зіяюць срэбрам ручайкі,
І у зялёных хвалях збожжа
Закрасавалі васількі.
Там шчыры бор шуміць сувора...
Ты тчэш, бязвольная рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

*Максім Багдановіч.*



## ПРАДМОВА



Сярод розных відаў прыкладнога мастацтва нашай краіны мастацкае ткацтва займае адно з галоўнейшых месц. Дываны, дэкаратыўныя тканіны для заслон, абіўкі сцен, мэблі, абрусы, ручнікі, посцілкі здаўна ўпрыгожвалі жыллё чалавека. Вялікая ўвага звярталася на тканіны, якія ішлі на адзенне і павінны былі ўпрыгожваць самога чалавека.

Ткацкія вырабы адрозніваліся па каштоўнасці матэрыялу, па майстэрству яго апрацоўкі і мастацкім выкананнем тканіны. Ткацкае майстэрства пастаянна ўдасканальвалася ў тонкасці выпрацоўкі, у прыгожасці афарбоўкі і арнаментацыі. Тканіны і розныя тканыя рэчы — хусткі, ручнікі і інш., якія выйшлі з рук умелага майстра, нярэдка дасягалі сапраўды мастацкага ўзроўню.

Да ліку вырабаў, у якіх асабліва праяўлялася майстэрства ткача, належаць шаўковыя тканыя паясы-кушакі.

Пояс-кушак складаў неабходную частку рускага, украінскага і беларускага адзення. Таму ён меў вялікае дэкаратыўнае значэнне і багата арнаментаваўся. Упрыгожванне адзення найбольш ярка выражалася ў распрацоўцы каларыту і арнаментацыі пояса.

Матэрыял, размер і назначэнне пояса давалі магчымасць майстру-ткачу выявіць свае мастацкія здольнасці. Кожны пояс-кушак можна разглядаць як узор ткацкага майстэрства свайго часу.

У цяперашні час у сувязі з ростам цікавасці да помнікаў нацыянальнай культуры пачата сур'ёзнае вывучэнне слуцкіх паясоў як узораў беларускага мастацкага шаўкаткацтва.

Наяўны шматлікі матэрыял па гэтаму пытанню яшчэ мала вывучан. Літаратура па шаўковых паясах-кушаках вельмі бедная. На рускай і беларускай мовах маюцца толькі асобныя брашуры і артыкулы ў розных часопісах. Няма яшчэ манаграфіі па вывучэнню паясоў-кушакоў, якія выраблялiся ў нашай краіне.

Пытанне аб гісторыі слуцкіх паясоў з'яўляецца пытаннем аб ролі беларускага народа ў стварэнні гэтых цудоўных узораў дэкаратыўнага прыкладнога мастацтва.

Вывучэнне слуцкіх паясоў мае таксама і практычнае значэнне. Расфарбоўка паясоў і іх арнаментацыя, распрацаваныя беларускімі майстрамі XVIII ст., могуць быць з поспехам прыменены ў сучаснай тэкстыльнай прамысловасці.

Народныя майстры-ткачы мелі высокаразвітае адчуванне матэрыялу і яго фактуры і дасканала валодалі тэхнікай вырабу. Таму тэхніка вырабу слуцкіх паясоў прадстаўляе значную цікавасць.

Асабліва важна вывучэнне паясоў-кушакоў для мастакоў-прыкладнікаў. Авалоданне багаццем каларыстыкі, уласцівай народным майстрам, іх майстэрствам арнаментацыі можа паслужыць справе абагачэння новага народнага стылю.

Перад савецкім прыкладным мастацтвам стаіць вялікая, сур'ёзная задача — стварэнне савецкага народнага стылю, адпавядаючага новым формам быту. Асноўнымі рысамі гэтага стылю павінны быць адчуванне сучаснасці, сувязь з народнымі традыцыямі і дасканаласць вырабу. Вывучэнне мастацкага народнага ткацкага майстэрства адкрывае магчымасці для яго творчага асваення. Яно дазволіць нам узяць са скарбніцы народнай творчасці тое, што каштоўна для савецкага прыкладнога мастацтва.

Паясы-кушакі прадстаўляюць сабой багаты матэрыял і для даследчыка, які займаецца вывучэннем ткацкай вытворчасці рускага і беларускага народаў.

Вывучэнне гэтага матэрыялу дазволіць асвятліць і рад іншых пытанняў, у тым ліку культурныя і гандлёва-прамысловыя сувязі паміж народамі Расіі, Беларусі і Рэчы Паспалітай, а таксама іх сувязі з краінамі Усходу і Захаду.

Мэтай данай работы з'яўляецца выяўленне мастацкага ткацкага майстэрства рускага і беларускага народаў. У цэнтры даследавання стаіць пытанне аб развіцці вытворчасці шаўковых паясоў у Беларусі — у Слуцку.

Матэрыялам для работы паслужылі калекцыі паясоў Дзяржаўнага Гістарычнага музея ў Маскве, Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў СССР і рада іншых музеяў нашай краіны.

Да работы прыкладваецца значны ілюстрацыйны матэрыял (у выглядзе фотаздымкаў).

* * *

Як асаблівасць тэрміналогіі трэба адзначыць ужыванне тэрмінаў «пояс» і «кушак».

Звычайна пры апісанні музейных экспанатаў ужываецца тэрмін «пояс». Ён прымяняецца як родавае паняцце і да скураных, і да металічных, і да тэкстыльных паясоў. Між тым для абазначэння шырокага тканага пояса ў рускай мове прывіўся спецыяльны тэрмін «кушак», запазычаны з татарскай мовы. Майстры, якія выраблялі падобныя паясы, называліся «кушачнікамі». Тканіны, якія ішлі на кушакі, атрымалі назву «кушачных».*)

У рускім дакументальным матэрыяле, які адносіцца да шырокіх тканых паясоў, ужываецца тэрмін «кушак». Аднак у музеязнаўстве да падобных паясоў тэрмін «кушак» не ўжываецца. Гэта тлумачыцца тым, што шаўковыя паясы данага тыпу прыпісваліся вытворчасці заходніх фабрык з галоўным цэнтрам у Слуцку і таму называліся слуцкімі. Кушакі маскоўскай вытворчасці не былі выяўлены.

З устанаўленнем групы маскоўскіх паясоў, якія называюцца ў дакументах «кушакамі», узнікла неабходнасць абазначаць маскоўскія паясы тэрмінам «кушак».

У Беларусі замацаваўся выраз «пояс». Паколькі ў музейных інвентарных кнігах ужываецца тэрмін «пояс», то ў пачатку кожнага апісання гэты тэрмін захаван, каб пазбегнуць разыходжання з інвентарным вопісам.

---

*) Гл. «Толковый словарь» Ул. Даля.



## ЗНАЧЭННЕ ПОЯСА Ў БЫТУ РУСКАГА І БЕЛАРУСКАГА НАРОДАЎ



ускае і беларускае народнае дэкаратыўнае мастацтва мае агульныя корані, якія вядуць у глыбокую старажытнасць. Знешнія ўмовы, што аказвалі некаторы ўплыў па фарміраванне мастацтва кожнага народа ў паасобку, не маглі парушыць яго самабытнасці.

Народныя майстры-мастакі тварылі на аснове старадаўніх традыцый. Яны карысталіся таксама іншаземнымі ўзорамі і прыёмамі, падвяргаючы іх самастойнай перапрацоўцы. Прыкладам такой самастойнай перапрацоўкі чужаземнага ўзору могуць служыць тканыя шырокія шаўковыя паясы-кушакі, запазычаныя з Усходу.

Вытворчасць гэтых паясоў-кушакоў узнікла амаль адначасова ў Расіі і Беларусі, цэнтры — Масква і Слуцк. Абедзве вытворчасці развіваліся незалежна адна ад другой. Паясы ткаліся народнымі майстрамі-мастакамі. Рускія і беларускія майстры, кожныя па-свойму, перапрацоўвалі ўсходнія арыгіналы і надавалі ім свае нацыянальныя рысы.

Аднак, нягледзячы на знешняе адрозненне, паміж маскоўскімі і слуцкімі паясамі ёсць унутраная агульнасць. Яна можа быць выяўлена толькі ў працэсе параўнальна-гістарычнага вывучэння мастацкага ткацтва абодвух народаў.

* * *

Пояс з'яўляецца неад'емнай часткай рускага, украінскага і беларускага народнага адзення, як мужчынскага, так і жаночага. Практычнае назначэнне пояса заключаецца ў тым, каб трымаць адзенне на стане.

У быту і абраднасці Старажытнай Русі значэнне пояса было вельмі вялікае. Аб гэтым сведчаць шматлікія словаўтварэнні, моўныя звароты, звязаныя са словам «пояс». Напрыклад, «паясажней», г. зн. павідней, пабольш; «распаясацца», г. зн. страціць усякую стрыманасць, распусціцца, прычым гэта разумеецца ўжо не толькі ў прамым сэнсе, у сувязі з адзеннем, але і ў пераносным, маральным. Так, у старадаўнерускім вершы падкрэсліваецца амаральнасць паводзін Марыны Ігнатаўны, якая прымала ў сябе Змея Гарыныча:

А молода Марина Игнатьевна,
Она высунулась по пояс в окно
В одной рубахе без пояса.*)

З поясам звязаны розныя абрады, павер'і, загаворы і гаданні.[1]

Самуіл Колінс, які дзевяць год пражыў у Маскве пры двары Аляксея Міхайлавіча, піша, напрыклад: «Рускія амаль ва ўсіх сваіх дзеяннях адрозніваюцца ад іншых народаў. Яны носяць кашулю паверх споднікаў, падпяразваюцца ніжэй пупа, таму што пояс, на іх думку, надае сілы. Ні мужчыны, ні жанчыны не ходзяць без паясоў пад страхам нябеснай кары».**)

Гэту асаблівасць нашэння пояса ніжэй паясніцы яшчэ раней адзначыў Герберштэйн. «Яны (рускія),— пісаў ён,— падпяразваюцца не па жывату, а па клубах і нават спускаюць пояс да пахвіны, каб жывот больш выдаваўся. І гэты звычай перанялі цяпер італьянцы, іспанцы і нават немцы».***) [2]

У беларускай вёсцы звычай нашэння пояса ніжэй жывата назіраўся яшчэ ў канцы XIX ст.****)

У Беларусі пояс з'яўляўся ахвярным прадметам, які прыносіўся ў дар па абяцанню. Многа такіх паясоў паступала як «ахвяры» ў цэрквы і касцёлы — «ахвярныя» паясы.

Сярод абрадаў, прыкмет і прадвесцяў існаваў абрад «апаясвання» дзіцяці праз шэсць тыдняў пасля нараджэння.*****) [3]

---

*) Древние российские стихотворения, собранные Киршею Даниловым. Издание Суворина, М., 1878, стар. 155.

**) Нынешнее состояние России, изложенное в письме к другу, живущему в Лондоне, Самуила Коллинса (перевод Киреевского). «Чтения», кн. I, 1846, стар. 20.

***) Герберштейн. Записки о Московских делах. Издание Суворина, СПб., 1908, стар. 80.

****) Н. Я. Никифоровский. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии. Витебск, 1895, стар. 107.

*****) И. Снегирев. Русские простонародные праздники и суеверные обряды, вып. I, М., 1837, стар. 210.

Звычай «апаясвання» лічыўся ў народзе адметнай рускай рысай, уласцівай таксама беларусам і ўкраінцам. Зяленін гаворыць, што «велікарусы называюць мужчыну без пояса ў неадабральным сэнсе — «бяспоясны татарын...». Пояс служыць талісманам, які мужчына павінен хаваць ад чорта, асабліва ж ад лесуна і дамавіка».*) [4]

Пояс меў важнае значэнне і ў вясельных абрадах. «Выпіла дзяўчына віна з бутэлькі, прынесенай жаніхом, зняла з сябе пояс, абматала ім тую бутэльку і ў такім выглядзе вярнула пасудзіну таму, хто прынёс,— значыць, згодна на шлюб, зрабілася нявестай, падпісала кантракт і з прычыны непісьменнасці вузялком пояса паказала месца пячаці (у некаторых мясцінах Велікаросіі гэты звычай заменен пасылкаю жаніху белага ручніка (шырынкі.— *Л. Я.*) нявесцінага рукадзелля.**) Цяпер яна ні ў якім выпадку не мае права адмовіць жаніху, які пачынае рабіць затраты, рыхтуючыся да вясельнага балю».***)[5]

Значэнне пояса ў быту відаць і з таго, што ён адыгрываў вялікую ролю ў народных гаданнях. [6]

Пояс ужываўся таксама як засцярога ў многіх замовах.[7]

У старажытнасці лічылі, што можна пашкодзіць чалавеку, зрабіўшы над яго поясам розныя вядзьмарскія дзеянні. Напрыклад, пасля раптоўнай смерці жонкі Івана III Марыі яе прыбліжаную Наталлю Палуеўктаву падазравалі ў тым, што яна пасылала пояс вялікай княгіні да якойсьці варажбіткі.****)

Былі замовы на поясе.[8]

Выраблялiся паясы з самых розных матэрыялаў: каваныя з дабрароднага металу — залатыя і срэбраныя, скураныя («с ременем») з усялякімі ўпрыгожваннямі, плеценыя і, нарэшце, тканыя.

---

*) Zelenin. Russische (Ostslavische) Volkskunda, Leipzig, 1927, стар. 221.
**) Вл. Даль. Пословицы русского народа т. III, 1904, стар. 11.
***) Максимов. Крылатые слова. СПб., 1890, стар. 417.
****) Н. М. Карамзин. История Государства Российского, т. VI, 1892, стар. 7.



## ПАЯСЫ НА МАСКОЎСКАЙ РУСІ



начэнне пояса ў адзенні маскоўскіх людзей было вялікім. У духоўнай грамаце Івана Каліты, пісанай у 1328 г., пояс упамінаецца адным з першых: «А из золота дал есмь сыну своему Івану («Краснаму»): чеп золоты, пояс большый с жемчугом, с каменьем, пояс золот с капторгами (засцёжкамі.— *Л. Я.*), пояс сердоличен, золотом окован». *)

Пояс служыў і як бацькоўскае благаславенне. Іван Красны ў духоўнай грамаце, пісанай у 1356 г., пры перадачы пояса старэйшаму сыну Дзімітрыю (у далейшым Данскому) адзначае гэта значэнне пояса: «...пояс вялікі залаты з каменнем з жэмчугу, што мяне благаславіў бацька мой князь Вялікі».**)

У XV ст. адзін пояс нават выклікаў спрэчку паміж членамі маскоўскай велікакняжацкай сям'і. [9]

У духоўнай грамаце Дзімітрыя Данскога мы бачым цэлы пералік розных паясоў, якія перадаваў ён сваім сынам. Пры гэтым тут паведамляюцца і тыя

---

*) Духовная грамота вел. князя Ивана Даниловича Калиты (первая). Собрание государственных грамот и договоров, ч. I, стар. 32.

**) Духовная грамота вел. князя Иоанна Иоанновича (первая). Собрание государственных грамот и договоров, ч. I, стар. 40.

асаблівасці, якія выдзяляюць паясы, напрыклад дадзены сыну князю Пятру — «с калитою да с тузлуки».*)

Пояс здаўна з'яўляўся хавальнікам каліты, г. зн. кашалька.**)

Тут жа мы сустракаем своеасаблівую назву пояса. Так, пояс, дадзены вял. князем Дзімітрыем Іванавічам сыну князю Івану, называецца — «татаур».***)

На поясе і за поясам насілася зброя.

У асноўным разнастайныя віды паясоў выраблялася рускімі майстрамі. У духоўнай грамаце Дзімітрыя Іванавіча ўпамінаюцца імёны майстроў, якія выраблялі княжацкія паясы — «пояс Макарава дзела», «Шышкіна дзела».****)

Тканыя паясы на Маскоўскай Русі ўпамінаюцца яшчэ і ў іншых духоўных граматах.

На іконаграфічным помніку старадаўняга жывапісу канца XIII — пачатку XIV ст.— «Никола с житием» — ёсць малюнак «сточнага» пояса. У кляйме з тэмай пакарання трох ваявод кат адзет у пунсовую кашулю, падпяразаную шырокім тканым белым поясам у чорную палоску.*****) Гэта адзін з найбольш старадаўніх малюнкаў тканага пояса і спосаба яго нашэння.

Можна сказаць, што на Русі ў XIII—XIV стст., калі не раней, існавала вытворчасць тканых паясоў.

Акрамя паясоў мясцовага вырабу, на Маскоўскай Русі бытавалі прывазныя паясы ўсходняга паходжання — кушакі.

Паясы прывозіліся на Маскоўскую Русь з розных краін Усходу.[10] З усходніх асабліва шырока былі распаўсюджаны паясы іранскага паходжання. У XVI—XVII стст. славіліся кізылбашскія — персідскія кушакі (назва па краіне Кізылбашы — Персія). У XVIII ст. сталі вядомы таксама мячэцкія кушакі (назва па гораду Мяшхет).******)

Гандаль усходнімі паясамі вёўся як рускімі, так і замежнымі купцамі. Цана ўсходніх паясоў была вельмі значнай. Напрыклад, у XVII ст. у Маскве

---

*) Духовная грамота вел. князя Димитрия Иоанновича (вторая). Писана в 1389 году. Собрание государственных грамот и договоров, ч. I, стар. 61.

**) «Плату ж, якую атрымліваюць грашыма, завязваюць (рускія) моцна ў паясы свае». (Ибн-Даста. Книга сокровищ; Гаркави. Сказания мусульманских писателей о России).

***) Новае «катаур», у манголаў «татаур» — пояс, зацяжка, скураны пояс, іншы раз шыты шоўкам і золатам, часам з накладнымі металічнымі ўпрыгожваннямі, залатымі і срэбранымі.

****) Духовная грамота вел. князя Димитрия Иоанновича (вторая). Писана в 1389 году. Собрание государственных грамот и договоров, ч. I, стар. 61.

*****) Владимиро-Суздальский историко-архитектурный и художественный музей-заповедник.

******) Мяшхет — буйны гандлёва-прамысловы цэнтр у правінцыі Харасан (паўн. Персія) — быў вядомы сваёй ткацкай шаўковай вытворчасцю, вёў ажыўлены гандаль з народамі Закаўказзя.

«кушак Кашчанскага дзела» каштаваў 1 руб. 50 кап., «польскія шаўковыя кушакі» прадаваліся па цане ад 45 кап. да 2 руб.*)

У XVI—XVII стст. усходнімі кушакамі апаясвалася верхняе мужчынскае адзенне.

Існавалі розныя спосабы завязвання кушака. Гэта можна, напрыклад, назіраць на партрэтах XVII ст.[11]

У музеях СССР сустракаюцца розныя ўзоры ўсходніх паясоў, якія бывалі ў нашай краіне ў вельмі далёкія часы.[12] У Дзяржаўным Гістарычным музеі захоўваюцца ўсходнія кушакі, якія адносяцца да XVI—XVIII стст. Яны прадстаўляюць сабой шаўковыя палотны рознай даўжыні і шырыні. Усходнія кушакі па выпрацоўцы могуць быць аднабаковымі і двухбаковымі, адналіцавымі і двухліцавымі, цэлымі і сшыўнымі. Яны ткаліся альбо на шырокіх станах (шырыня 60—70 см), альбо на вузкіх (шырыня 30—35 см) і затым сшываліся ва ўсю даўжыню.

Усходні кушак па характару арнаментацыі дзеліцца на тры часткі — сярэднік, канцы і аблямаванне. Сярэднік пояса бывае заткан дробным узорам — траўным, кветкавым, лускаватым, у гарошак, геаметрычным і інш. Часам ён заткан папярочнымі палосамі, запоўненымі арнаментам, або гладкімі. Радзей сярэднік бывае аднаколерным, без арнаменту.

Найбольш бачнай часткай кушака з'яўляюцца яго канцы, на якія пры выпрацоўцы звярталася асаблівая ўвага. Арнаментацыя канцоў звычайна складаецца з рытмічна ідучых па чарзе асобных кветак, букетаў або вянкоў (ад трох да сямі). Радзей сустракаюцца разеткі і фігуры.

Аблямаванне пояса часта пераходзіць на канцы. Узор звычайна траўны.

У вуглу аблямавання канца кушака часта ставілася метка. Метка часам мела культавае значэнне.

Усходнія кушакі як каштоўная тканіна ўжываліся для пашыву адзення, а таксама прадметаў свецкага і царкоўнага быту.

Найбольш раннім узорам ужывання кушатчатай тканіны на пашыў царкоўнага адзення з'яўляецца падрызнік, або «падрызны стыхар», мітрапаліта Алексія (1290—1375 гг.).**) [13] Пазней, ужо ў XVI ст., часта ўпамінаецца свецкае мужчынскае адзенне, на пашыў якога ішлі шаўковыя ўсходнія кушакі.[14] К пачатку XVII ст. адносіцца ўпамінанне аб жаночым адзенні, сшытым з шаўковых усходніх кушакоў.[15]

Прывазныя ўсходнія кушакі, акрамя мастацкай каштоўнасці, цікавы нам таму, што яны доўгі час бытавалі на Маскоўскай Русі, Беларусі, Украіне. Яны паслужылі прататыпам для вытворчасці паясоў маскоўскіх і слуцкіх.

---

*) Пад словам «польскія» трэба разумець прывазныя з Усходу і толькі бытаваўшыя ў Польшчы ў XVII ст.

**) Аружэйная палата, № 12062.

У XVIII ст. у Расіі паяўляецца імкненне арганізаваць уласную вытворчасць шаўковых кушакоў. Пачатак паклалі астраханскія армяне, якія гандлявалі шоўкам. Затым вытворчасць шаўковых кушакоў перайшла да рускіх прадпрыемцаў.

Спачатку «кушачная» вытворчасць узнікла ў Астрахані. Горад гэты з'яўляўся цэнтрам транзітнага гандлю Расіі з Усходам, у прыватнасці з Персіяй. З таго часу вядома кушачная мануфактура армяніна Рэвіза Зеліева,*) заснаваная ў 1752 г.[16], а таксама мануфактура братоў Буніатавых (1760 г.).**)

Далейшае развіццё вытворчасць шаўковых кушакоў атрымала ў Маскве і яе ваколіцах. У 1730—1760 гг. у Маскве было заснавана звыш дваццаці шаўкаткацкіх прадпрыемстваў. Масква станавілася цэнтрам складваўшайся рускай тэкстыльнай прамысловасці.

Асаблівасцю вытворчасці паясоў у Маскве з'яўлялася тое, што яны выраблялiся не спецыяльна «кушачнымі» мануфактурамі — «персіярнямі», а складалі частку шаўкаткацкай вытворчасці. Гэта тлумачыцца тым, што ў XVIII ст. у Расіі стала развівацца тэкстыльная прамысловасць наогул і шаўкаткацкая ў прыватнасці. Рускія шаўковыя мануфактуры выраблялі тканіны розных відаў і гатункаў, а таксама разнастайныя шаўковыя рэчы — хусткі, стужкі і г. д. Таму арганізаваць на мануфактуры выраб шаўковых паясоў можна было без вялікай цяжкасці.

Апрача мануфактурнай вытворчасці кушакоў, тут мелася таксама шырокая саматужная вытворчасць. Яна часта служыла асновай для ўзнікнення мануфактур.

У дакументах, якія закранаюць саматужную вытворчасць у Маскве і Маскоўскай губерні, пастаянна ўпамінаюцца майстры-кушачнікі, працаваўшыя на 1—3 станах.***)

У першай палавіне XVIII ст. у Маскве сярод шматлікіх цэхаў, якія аб'ядноўвалі майстроў па спецыяльнасці, меўся кушачны цэх.

Трэба адзначыць, што ў XVIII ст. у выніку адмовы дваранства ад рускага нацыянальнага адзення шаўковыя кушакі бытавалі амаль выключна сярод купцоў і заможнага сялянства. Гэта вызначыла характар выпрацоўкі маскоўскіх кушакоў, разлічаных на параўнаўча шырокага спажыўца.

---

*) М. Чулков. Историческое описание Российской коммерции при всех портах и границах от древних времен до ныне настоящего и всех преимущественных узаконений по оной Гос. Имп. Петру В. и ныне благополучно царствующей Гос. Имп. Екатерины В. М., 1785, стар. 619.

**) Там жа.

***) И. Мешалин. Текстильная промышленность крестьян Московской губернии в XVIII и первой половине XIX века, т. II, М.—Л., 1950, стар. 54, 57, 58, 98 і наступныя.

Маскоўскія кушакі не здзіўляюць ні раскошай, ні насычанасцю залотнай ніткай і не вызначаюцца выдасканаленасцю арнаментацыі і расфарбоўкі. Яны дабротныя, залотная нітка прымяняецца рэдка і ў малой колькасці, галоўным чынам на канцах. Расфарбоўка і арнамент маларазнастайныя. Аднак маскоўскія паясы, безумоўна, з'яўляюцца ўзорамі ткацкага майстэрства па тонкасці выпрацоўкі, па расфарбоўцы, падабранай з вялікім густам, і па простай прыгожай арнаментацыі.

Гэтыя кушакі знаходзілі шырокі попыт на ўнутраным рынку і нават вывозіліся ў Польшчу, дзе ўжо меліся свае мануфактуры.[17]

У сярэдзіне XVIII ст. рускі ўрад абавязаў уладальнікаў тэкстыльных мануфактур абазначаць прадукцыю сваёй вытворчасці асобым вытканым на тканіне таварным знакам, кляймом. Увядзенне таварных знакаў павінна было павысіць адказнасць прадпрыемца за сваю прадукцыю, служыць парукай за яе якасць. Забаранялася выдаваць сваю прадукцыю за вырабы другога прадпрыемства, рускага ці замежнага.

На шаўковых кушаках у большасці выпадкаў таксама ставіўся таварны знак. Ён меў розныя віды. Метка размяшчалася альбо па чатырох вуглах кожнага канца пояса, радзей па двух ніжніх, альбо па яго ніжняму краю ва ўсю шырыню. Па гэтых таварных знаках можна ўстанавіць назву і месца вытворчасці, імя і прозвішча ўладальніка мануфактуры.

Адным з старэйшых рускіх шаўкаткацкіх прадпрыемстваў, выпускаўшых кушакі, была маскоўская мануфактура Данілы Якаўлевіча Земскага.*) У 1745 г. з дазволу Мануфактур-калегіі яна была пераведзена ў сяло Купаўна пад Багародскам.[18]

Да вырабу мануфактуры Д. Я. Земскага можна аднесці пояс № 127/27253 з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея (I).**) Пояс гэты двухбаковы, двухліцавы, тканы ў блекла-пунсовых танах з характэрным для XVIII ст. шашачным узорам па краю (разм. 2,92×0,48). Сярэднік яго ў папярочных палосах з кветкавым узорам цёмна-блакітных і зялёных тanoў. На канцах па чатыры круглыя разеткі, запоўненыя кветкавым арнаментам. Па чатырох вуглах канца пояса ткана метка, якая складаецца з дзвюх літар «Д. З.» (Даніла Земскі). Махры не прышытыя, а зробленыя з нітак асновы, што характэрна для маскоўскіх паясоў.[19]

У 1775 г. Купавінская мануфактура адышла да дзяржавы і як дзяржаўнае прадпрыемства існавала да 1803 г.[20] У 1803 г. яна перайшла да князя Юсупава, прэзідэнта Мануфактур-калегіі. Час уладання Купавінскай фабрыкай Юсупавымі з'яўляецца апошнім перыядам яе шаўкаткацкай вытворчасці.[21]

*) «Русская Старина», 1883, кастрычнік, стар. 67.
**) Рымскія лічбы ўказваюць узоры паясоў.

Кушакі тут вырабляліся двух тыпаў — персідскія і мячэцкія. Персідскі кушак прадстаўляў сабой шаўковае цэльнае палотнішча з тканым узорам. Даўжыня і шырыня яго розныя. Ён мог быць двухбаковым і чатырохбаковым, г. зн. ліцавы ўзор на кожным з бакоў або на кожным з бакоў па два ліцавых узоры.

Мячэцкі кушак таксама прадстаўляў сабою шаўковае цэльнае палотнішча, але аднабаковае, даўжыня і шырыня якога маглі быць розныя.

Персідскі і мячэцкі, як і ўсходнія кушакі, складаюцца з 3 частак — сярэдніка з аблямаваннем і двух канцоў. Арнаментацыя сярэдніка адзначаецца вялікай устойлівасцю. Яна складаецца з папярочных палос, запоўненых траўным узорам. Поле сярэдніка і палосы бываюць самых розных колераў і адценняў. Траўны ўзор часцей за ўсё карычневы. Арнаментацыя канцоў больш разнастайная. Яна складаецца альбо з некалькіх зорак, альбо з трох ці пяці разетак, якія чаргуюцца з свяцільнікамі, альбо з раслінных матываў. Раслінныя матывы прадстаўлялі сабой букеты кветак (часам у вазонах ці вазах), часцей за ўсё звернутыя венчыкамі да ніжняга краю канца пояса.

Канец пояса звычайна не меў махроў. Але ў асобных выпадках канцы пояса заканчваліся махрамі. Гэтыя махры складаюць арганічнае адзінства з тканінай пояса. Яны з'яўляюцца працягам асновы. Як выключэнне сустракаюцца паясы з прышыўнымі махрамі. Прыкладам можа служыць пояс № 83/42269 з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея (II). Па чатырох вуглах канца яго ў два радкі выткана метка „К.Н.Ю./К.Ф.", г. зн. «князя Юсупава Купавінская фабрыка».[22]

У 1833 г. Купавінская фабрыка князя Юсупава перайшла да купцоў Бабкіных — суконшчыкаў. Выпуск мастацкай прадукцыі фабрыка спыніла.

Усходнія кушакі выпускалі таксама маскоўскія фабрыкі Андрэева, Дудышкіных, Жывова, Жыгарава, Карпава, Кірыякава, Калакольнікава, Кандрашава, Левіна і рад іншых. Сярод іх адным з буйнейшых прадпрыемстваў была фабрыка Якава Карпава.

Якаў Карпаў заснаваў сваю фабрыку ў сяле Хамутове ў 1792 г., калі быў яшчэ эканамічным селянінам. Паступова ўдасканальваючы вытворчасць і паляпшаючы вырабы, ён давёў сваё прадпрыемства да бліскучага стану. Росквіту фабрыкі садзейнічаў і сын Я. Карпава — Ілья.[23]

Прадукцыя фабрыкі Карпава па якасці не ўступала замежнай. Нярэдка маскоўскія і пецярбургскія купцы перапрадавалі вырабы гэтай фабрыкі пад выглядам замежных, галоўным чынам французскіх. *)

У 1833 г. на выстаўцы ў С.-Пецярбургу Карпаў атрымаў за вырабы сваёй фабрыкі вялікі залаты медаль. Фабрыка выраблялa кушакі тыпу ўсходніх.

---

*) «Журнал мануфактур и торговли за 1828 г.», СПб., № 4, стар. 102.

Гэтыя кушакі адзначаліся высокай якасцю выпрацоўкі, прыгожасцю расфарбоўкі і багаццем узора. Прыкладам вырабу гэтай фабрыкі можа служыць пояс № 119/15897 з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея (III).

Другім буйным шаўкаткацім прадпрыемствам, дзе выраблялі паясы, была фабрыка Кандрашава.[24] Прыкладам вырабаў гэтай фабрыкі можа служыць пояс № 340/59400 з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея (IV). Пояс гэты шаўковы, аднабаковы (разм. 2,65×0,38). Сярэднік яго паласаты. Палосы чаргуюцца сінія, зялёныя, жоўтыя, па іх ткан траўны ўзор чорнага, пунсовага і светла-пунсовага колераў. На канцах па жоўтаму полю ткана па тры матывы стылізаваных кветак (хутчэй за ўсё — гваздзікі). У аблямаванні канцоў па чатырох вуглах ёсць метка. У ніжнім вуглу ў тры радкі выткана: у першым радку «Ф. К.», у другім — «К. Ф.», у трэцім — «Ш.», г. зн. «фабрыканта Кірыла Кандрашава фабрыка шаўковая».[25]

Буйным прадпрыемствам XVIII—XIX стст. была і шаўкаткацкая фабрыка Грыгора Кірыякава. Кушакі, якія выпускала гэта фабрыка, ёсць у калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея, напрыклад пояс № 22/21947.[26] На абодвух канцах гэтага пояса, у аблямаванні, па чатырох вуглах выткана метка. Метка складаецца з чатырох пачатковых літар „М.К./Г.К.“, якія трэба чытаць: «Маскоўскі купец Грыгор Кірыякаў».

Другі пояс (№ 86/18897) — двухбаковы (разм. 3,44×0,58).[27] Ва ўсю шырыню на канцах ніжняй паласы выткана: «Р. Ш. Ф. С. М. К. Г. К.» — «Расійскай шаўковай фабрыкі ўладальнік маскоўскі купец Грыгор Кірыякаў».

У 70-х гадах XVIII ст. паявілася шаўкаткацкая фабрыка Герасіма Міронава ў сяле Пакроўскім Маскоўскай губерні. Яна таксама выпускала шаўковыя кушакі.

Пры вывучэнні паясоў мы сустракаемся са з'явамі, калі вядомы фабрыкі або імёны асоб, якія ткалі паясы, але прадукцыя невядома. Да такіх прадпрыемстваў належыць фабрыка маскоўскага купца Івана Калакольнікава. Гэта прадпрыемства існавала з 1798 г. Яно знаходзілася ў Маскве.

Фабрыка выпускала шаўковыя тканіны высокай якасці. На выстаўцы 1831 г. сярод рада экспанатаў вытворчасці Калакольнікава быў выстаўлен «кушак персідскі».*) За вырабы сваёй фабрыкі Калакольнікаў атрымаў на выстаўцы медаль.[28]

У Купаўна, акрамя фабрыкі Юсупава, знаходзілася фабрыка, якая належала маскоўскай купчысе Зенінай. Гэта мануфактура таксама выраблала шаўковыя паясы-кушакі.[29]

Адным з старэйшых шаўкаткацкіх прадпрыемстваў была фабрыка купцоў

---

*) Указатель произведений отечественной промышленности, находившихся на 1-й Московской выставке 1831 года. Стар. 43 і 49.

братоў Дудышкіных — Ерафея і Казьмы. Гэта фабрыка знаходзілася ў падмаскоўным сяле Пакроўскім. Прадпрыемства Дудышкіных мела 51 стан і выпускала высакаякасную прадукцыю, сярод якой былі і кушакі.[30]

Вытворчасць шаўковых кушакоў у XVIII ст. распаўсюдзілася і сярод сялянства. Вядома значная колькасць такіх прадпрыемстваў. У далейшым некаторыя з іх ператварыліся ў буйныя прадпрыемствы, а іх уладальнікі сталі купцамі.[31]

Часам сустракаюцца кушакі, на якіх адсутнічаюць меткі. Па характару расфарбоўкі і ўзора гэтыя кушакі, безумоўна, маскоўскай вытворчасці. Адсутнасць меткі дазваляе меркаваць, што яны адносяцца да вытворчасці дробных саматужнікаў, што працавалі «безуказна» і таму не выстаўлялі сваіх метак.

У XVIII і XIX стст. кушакі маскоўскай выпрацоўкі дзякуючы прыгожасці каларыту і арнаментацыі знаходзілі прымяненне ў царкоўным быту як каштоўная мастацкая тканіна.[32]

Дасягнуўшая значных размераў вытворчасць кушакоў на маскоўскіх фабрыках з'явілася вынікам высокага развіцця рускага шаўкаткацтва, якое ўходзіла сваімі каранямі ў народнае ткацтва. Сотні і тысячы народных майстроў, што прыйшлі на гэту вытворчасць, а ў асобных выпадках і ўзначалілі яе, прынеслі з сабой не толькі майстэрства, але і густы народа. Натуральна таму, што маскоўскія кушакі мелі многа своеасаблівых рыс, якія адрознівалі іх ад усходніх. Па такому ж шляху перапрацоўкі ўсходніх узораў у духу сваіх народных традыцый развівалася вытворчасць паясоў у Беларусі. Маскоўскія кушакі і слуцкія паясы з прычыны духоўнай агульнасці двух брацкіх народаў мелі многа агульных рыс. Іх няцяжка заўважыць і ў элементах, з якіх складваўся арнамент, асабліва раслінны, і ў кампазіцыі рысунка, і ў расфарбоўцы. Аднак агульныя рысы не засланяюць спецыфічных рыс гэтых выдатных узораў прыкладнога мастацтва рускага і беларускага народаў.





## ВЫТВОРЧАСЦЬ СЛУЦКІХ ПАЯСОЎ



Асаблівага росквіту дасягнула вытворчасць шаўковых паясоў у Беларусі. Гэтыя паясы атрымалі назву «слуцкіх» (па месцу вытворчасці — г. Слуцк). Высокая тэхнічная і мастацкая якасць выканання хутка прынесла паясам, якія вырабляліся ў Слуцку, шырокую вядомасць. Назва «слуцкія паясы» замацавалася за ўсімі доўгімі, шаўковымі паясамі.

Такі росквіт вытворчасці паясоў узнік на аснове высокаразвітага народнага мастацкага ткацтва.

У старадаўняй «Калыханцы» пяецца:

Пайшоў Лёнік у лясок,
Знайшоў сабе паясок
Слуцкае работы.*)

Высокая якасць пояса падкрэсліваецца словамі «слуцкае работы».

---

*) Р. Шырма. Беларускія народныя песні, загадкі і прыказкі, т. I, Мінск, 1947, стар. 166.

# БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ МАСТАЦКАЕ ТКАЦТВА

Ткацтва — адно з старадаўніх рамёстваў у Беларусі. Яно ўходзіць сваімі коранямі ў глыбіню стагоддзяў. Археалагічныя даныя дазваляюць меркаваць аб наяўнасці тут ткацтва ў X—XII стст. Матэрыялам для ткацтва з'яўляўся лён. Пры раскопках знойдзены таксама фрагменты тканін, выробленых з воўны.

Ткацтва ў Беларусі займала значнае месца ў народнай гаспадарцы. У XVI—XVII стст. ткацтва з сялянскага промысла пачынае перарастаць у гарадское рамяство. У некаторых гарадах і мястэчках узнікаюць ткацкія цэхі. У 1605 г. такі цэх узнік у Слоніме. Яго далейшае існаванне пацвярджаецца граматамі 1609 і 1679 гг. У 1652 г. ткацкі цэх быў арганізаван у м. Капыль. Аб ім упамінаецца ў граматах канца XVII — пачатку XVIII ст.*)

Паралельна развіваецца феадальная эксплуатацыя працы прыгонных ткачоў. У феадальных маёнтках і манастырах ствараюцца ткацкія майстэрні, заснаваныя на працы прыгонных. Гэтыя майстэрні былі даходнымі прадпрыемствамі і служылі сродкам узбагачэння свецкіх і царкоўных феадалаў.

Феадалы-прадпрыемцы ў пагоні за кваліфікаванай рабочай сілай дзейнічалі прымусам. Найбольш багатыя выкрадалі прыгонных ткачоў у больш слабых суседзяў або запрыгоньвалі свабодных. У 1568 г. Андрэй Ціханоўскі, напрыклад, скардзіўся ў Слонімскі земскі суд на Мікалая Сапегу, які напаў на яго маёнтак і выкраў ткачых.**)

Звесткі аб падобных выпадках можна знайсці і ў XVIII ст. у актах літоўскага трыбунала.

Прыгонныя ткачы выраблялі тонкія палотны, узорныя тканіны, абрусы, дываны і інш.

Ткацкія вырабы прыгонных майстроў адзначаліся майстэрствам і вялікай мастацкасцю. Гэта майстэрства мела свае традыцыі і стваралася многімі пакаленнямі. Ільнаводства, прадзенне і ткацтва з'яўлялася адным з галоўнейшых заняткаў беларускіх жанчын. Калі ў Сярэдняй Азіі бавоўна называецца «белым золатам», то такое ж значэнне для Беларусі меў лён.[33]

Аднак тэхніка ткацтва была даволі простая. Усё рабілася на простых ручных станках. На іх ткалі грубыя і тонкія палотны, дзяругу і ўзорныя тканіны. Якасць вырабу залежала ад умення і майстэрства самой ткачыхі.

У беларускай народнай паэзіі гаворыцца аб ткачыхах: «залатыя рукі, што тонка пралі, звонка ткалі да размысна ўзор клалі».

---

*) В. Семенов. Россия, т. IX, СПб., 1905, стар. 527 і наступныя.
**) «Беларусь», 1947, № 3 (артыкул «Ткацтва на Беларусі»).

Тут прымянялася старадаўняя тэхніка ўзорнага ткання — «на дошчачцы», так званая «браная» тэхніка — «бранне», ад слова «браць». Браныя абрусы ўпамінаюцца яшчэ ў былінах.[34] Браная тэхніка садзейнічала выпрацоўцы вопыту ўзорнага ткання. У далейшым гэты вопыт дазволіў беларускім майстрам хутка ўспрыняць складаную ўсходнюю тэхніку ткацтва шаўковых паясоў і давесці сваё майстэрства да высокай дасканаласці.

Пояс у адзенні беларускага народа меў такое ж значэнне, як і ў адзенні рускага народа.

Адзенне беларусаў у сваёй аснове блізкае да рускага. Польскі ўплыў, які праявіўся ў XVII і XVIII стст., не мог парушыць яго самабытнасці: польскае адзенне мае агульныя рысы з адзеннем усходніх славян.

Пояс заканчваў і ўпрыгожваў адзенне беларусаў. Якасць пояса вызначала якасць усяго адзення.

У старадаўняй беларускай песні даецца вобраз маладога чалавека, які паланіў сэрца дзяўчыны:

Вось ідзець маладзец
Цераз матчын дварэц.
Ах, і Дунай!
Ён і тонак і высок,
І шаўковы паясок.
Ах, і Дунай!
Паглядзеўшы на яго,
Можна ісці за яго.
Ах, і Дунай!*)

Песня дае немнагаслоўную характарыстыку і маладога чалавека і яго ўбрання. Упамінаецца толькі галоўнае: «тонак, высок», а з усяго адзення адзін пояс — «шаўковы». Астатняе робіцца зразумелым.

Кожны беларускі селянін заўсёды меў па некалькі паясоў. «Паяўленне без шапкі і порткаў,— гаворыць Нікіфароўскі,— не здзівіць староннiх так, як паяўленне без апаяскі». **)

У беларускіх «радзінных» песнях у жартаўлівай форме паказан разгублены малады бацька, які спяшаецца пазваць павітуху:

Бяжыць Якімка па бабулічку,
Бяз пояса ў адным чобаці.

Або:

Там бяжыць, бяжыць
Андрэй маладэй,
Ён і босы, і праставалосы,
А біс шубкі і біс пояса.***)

---

*) Р. Шырма. Беларускія песні, Мінск, 1955, стар. 108.

**) Н. Я. Никифоровский. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии. Витебск, 1895, стар. 107.

***) Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. VIII, стар. 336.

У абедзвюх песнях адсутнасць пояса характарызуе бязладдзе ў адзенні.

Матэрыял і знешні выгляд пояса залежалі ад яго назначэння, ад саслоўнага і маёмаснага становішча яго ўладальніка. У народзе былі распаўсюджаны паясы з ільну, воўны, вязаныя, плеценыя і тканыя.

Звычайна ў кожнай гаспадарцы ткаліся паясы жаночыя і мужчынскія, верхнія і ніжнія. Жаночыя ткаліся на «ніту», а мужчынскія — на звычайным ткацкім стане бранай тэхнікай на 3—6—8 дошчачках. Часам стан замяняўся калочкамі, забітымі ў сцяну або зямлю. На гэтыя калочкі нацягвалася паясная аснова.*)

Карыстаючыся такой няхітрай тэхнікай, беларуская ткачыха рабіла ўзорныя паясы, якія адзначаліся высокай якасцю. «У іншых паясоў узоры настолькі чыстыя і добрыя,— заўважае Нікіфароўскі,— што цяжка верыцца ў ручную хатнюю вытворчасць паясоў».**) Узорнасць і расфарбоўка беларускіх паясоў адзначаюцца вялікай разнастайнасцю. Але ёсць і ўстойлівы тып.***)

Матэрыялам для вырабу паясоў звычайна была суканая воўна і лён. Пояс для кашулі ткаўся на белай ільняной аснове чырвонай воўнай. На белым полі выдзяляўся геаметрычны арнамент, зроблены чырвонай ніткай. Канцы ўпрыгожваліся кутасамі («кіцідамі»)****) або махрамі. Такі пояс нявеста дарыла жаніху разам з кашуляй і порткамі.

Паясы для верхняга адзення ткаліся з суканай воўны розных колераў — чырвоныя, чорныя і інш.*****)

Даўжыня мужчынскіх тканых паясоў была вельмі значнай — прыблізна адзін сажань (каля 2,20 м). Меркавалася два паясных абхваты і паўаршына на канцы. Шырыня пояса для верхняга адзення даволі ўмоўная — $1—1^1/_2$ вяршка. На верхнім поясе мужчыны яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя насілі каліту, нож і крэсіва.******)

## З ГІСТОРЫІ СЛУЦКІХ ПАЯСОЎ

Усходнія шаўковыя паясы былі шырока распаўсюджаны сярод заможных слаёў насельніцтва. Іх насіла шляхта і мяшчанства.

*) Н. Я. Никифоровский. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии. Витебск, 1895, стар. 23.

**) Там жа, стар. 108.

***) И. А. Сербов. Белорусы-сакуны. Краткий этнографический очерк. Сборник Отделения русского языка и словесности имп. Академии наук, т. 94, Петроград, 1916.

****) Н. И. Лебедева. Народный быт в верховьях Десны и в верховьях Оки. М., 1927, стар. 124.

*****) «Этнография», 1926, № 1—2, стар. 223.

******) Н. Я. Никифоровский. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии. Витебск, 1895, стар. 23.

Шаўковыя паясы ў вялікай колькасці завозіліся на Украіну і ў Беларусь з розных краін Усходу. Гандаль паясамі ішоў праз Заходнюю Украіну. Заходняя Украіна — Галіцыя з даўніх часоў была эканамічна развітай вобласцю і вяла гандаль з Усходам. Купцамі былі галоўным чынам армяне, якія яшчэ ў XIV ст. пасяліліся ў Галіцыі, часткова таксама туркі і грэкі. У сваёй гандлёва-прадпрыемніцкай дзейнасці яны былі цесна звязаны з Турцыяй і Персіяй, адкуль прывозіліся ўсходнія паясы.

Армяне, якія пасяліліся ў Львове, вялі самы ажыўлены гандаль гэтымі паясамі.

Канстанцінопаль і Львоў сталі галоўнымі цэнтрамі гандлю. Гандлёвы дом польскіх армян Нікаровічаў зрабіўся буйным прадпрыемствам, якое прывозіла паясы з Усходу. Нікаровічы мелі аддзяленне ў Канстанцінопалі, дзе час ад часу знаходзіліся самі або накіроўвалі туды даверaных асоб.

Рахунковая кніга, якую Нікаровічы вялі з 1753 па 1774 г. то ў Канстанцінопалі, то ў Львове, дае звесткі аб гандлі паміж двума гэтымі гарадамі. У гэтай рахунковай кнізе называецца рад ткацкіх майстэрняў, якія выраблялі ўсходнія паясы. Гэтыя паясы Нікаровічы скуплялі для рынку Рэчы Паспалітай. Майстэрні, размешчаныя ў Канстанцінопалі і яго ваколіцах, належалі туркам, грэкам, армянам і татарам.

Па рахунках, праводзімых у кнізе, можна ўстанавіць, якія цэнтры вытворчасці паясоў на Усходзе забяспечвалі праз Канстанцінопаль рынак. Такімі цэнтрамі былі: у Малой Азіі — Ангора (паясы ангорскія), Бруса (паясы брускія), Марціфун (паясы марціпанавыя); у Сірыі — Алепа (паясы алепскія) і ў Персіі — Іспагань (паясы іспаганскія). Прывозіліся таксама каштоўныя кітайскія паясы.

Вялікі попыт на ўсходнія паясы, іх высокі кошт (ад 4 да 500 дукатаў, дукат — каля 3 залатых рублёў), які павялічваўся дзякуючы значным накладным выдаткам, прымусілі купцоў пераключыцца з гандлю на прамысловую дзейнасць.

Найбольш ранімі фабрыкамі, якія выпускалі ўсходнія тканыя паясы, былі фабрыкі польскіх армян — Якуба Піятровіча ў Канстанцінопалі і Яна Маркановіча ў Львове.

Вытворчасць усходніх паясоў асабліва пачынае развівацца ў абласцях Рэчы Паспалітай, заселеных украінцамі і беларусамі. Яна пачынаецца ў XVIII ст., узнікаючы ў паўднёва-ўсходніх ваяводствах, г. зн. у Галіцыі.

У Галіцыі ўзнікае рад прадпрыемстваў саматужнага тыпу, якія затым развіваюцца ў персіярні. Росту вытворчасці паясоў садзейнічаюць галіцыйскія магнаты. Яны бяруць персіярні пад сваю апеку.

Персіярня, якая выпускала высакаякасныя паясы, прыносіла ўладальніку такую славу, як добры конскі завод або іншыя прадпрыемствы, звязаныя

з бытам феадалаў. Асабліва падтрымліваў развіццё вытворчасці паясоў гетман Юзеф Патоцкі і яго наследнікі. У галіцыйскіх уладаннях Патоцкіх узнікла рад прадпрыемстваў па вырабу паясоў. Вядомы прадпрыемствы саматужнага тыпу ў Станіславе, Бродах, Бучачы і інш. Асабліва вядома была персіярня ў Станіславе. У 40-х гадах XVIII ст. тут пасяліўся армянін Місіяровіч, які паклаў пачатак вытворчасці шаўковых усходніх паясоў. Але больш важнае значэнне для вытворчасці паясоў у Станіславе, а пазней у Слуцку мела дзейнасць Яна Мажарскага.

Ян Мажарскі — таленавіты майстар з Канстанцінопаля. Ёсць меркаванне, што ён быў венгерскі выхадзец, на што ўказвае прозвішча Маджар — Мад'яр. Дзейнасць Яна Мажарскага прынесла славу вытворчасці паясоў у Станіславе. Справы па вырабу паясоў тут ішлі добра, і неўзабаве Станіслаў стаў цэнтрам вытворчасці шаўковых паясоў. Сюды для навучання накіроўваліся майстры з розных месц. Тут намеціўся новы тып пояса, які атрымаў сваё поўнае развіццё ў Слуцку.

Спачатку станіслаўскія майстры прытрымліваліся ўсходніх узораў — стамбульскіх, персідскіх і інш. Але хутка пад уплывам мясцовых густаў і патрэб яны вымушаны былі перарабіць усходнія ўзоры. Былі ўнесены змяненні ў размер пояса, які стаў карацей і многа вузей, і ў структуру арнаменту; канцы пояса атрымалі самастойнае арнаментальнае значэнне; каларыт набыў шматколернасць, вялікую яркасць і пачаў будавацца на рэзкіх кантрастах.

Такая хуткая рэакцыя на запатрабаванні спажыўца тлумачыцца, відаць, не толькі талентам майстра, але і характарам вытворчасці: вытворца спалучаў у адной асобе і мастака, і ткача, і прадаўца сваёй прадукцыі.

У заходніх абласцях Украіны — Галіцыі, Падоліі і Валыні — вытворчасць шаўковых паясоў распаўсюдзілася хутка. Вядомы персіярні ў Пржэворску (у Любамірскіх), Куткожы (пад Злочавым у Лазінскіх), Хелме (у Замойскіх), Угнаве (у Дзержыкаў), у Сокале, Сакалове, у Мендзыбожы (на Падоле ў Сяняўскіх, а пазней — у Чартарыйскіх), у Ціраспалі і Карцы на Валыні (у Чартарыйскіх).

## СЛУЦКАЯ ФАБРЫКА

Паясы, якія выраблялiся у Слуцку, як ужо адзначалася, былі вельмі высокай якасці і набылі шырокую вядомасць. Слуцкія паясы служылі ўзорам для іншых фабрык.

Слуцк — старадаўні рускі горад на зямлі Дрыгавічоў. Упершыню ён упамінаецца ў летапісу пад 6624 годам, г. зн. 1116 годам,*) як уласнасць вял. князя Кіеўскага Уладзіміра Манамаха.

*) Указатель к первому тому Полного собрания летописей. СПб., 1907, стар. 428.

У канцы XIII ст. Слуцк адышоў да літоўскіх князёў. У першай палавіне XV ст. ён стаў буйным гандлёва-рамесным цэнтрам і атрымаў Магдэбургскае права. У XVI ст. горад дастаўся князям Радзівілам. Узнікненне вытворчасці паясоў у Слуцку мае сваю прадгісторыю. Відаць, першапачатковы выраб шаўковых паясоў быў заснаван Радзівілам у Нясвіжы, а затым пераведзен у Слуцк. У рэестрах Нясвіжскага архіва 1743 і дадаткова 1751, 1754, 1758 гадоў прыводзіцца спіс паясоў, падараваных Радзівілам розным асобам. У спісе гэтыя паясы вызначаюцца як «багатыя» і «простыя». Аднак гэтым і абмяжоўваюцца звесткі аб нясвіжскіх паясах.

Разам з тым у 40—50-х гадах XVIII ст. у Слуцку ўжо мелася фабрыка, якая выпускала галуны, пазументы і іншыя залотныя вырабы.

Відаць, спалучэнне абодвух прадпрыемстваў (нясвіжскага і слуцкага) і паслужыла асновай для стварэння слуцкай вытворчасці паясоў. Дакладна час яе ўзнікнення не высветлен. Вядома, што ў 50-я гады XVIII ст. князь Міхаіл-Казімір Радзівіл, ваявода віленскі, заснаваў у Слуцку фабрыку паясоў — персіярню.

Для сваёй фабрыкі князь прывёз у Слуцк персаў і турак. Яны спачатку і былі адзінымі работнікамі, якія аднаўлялі на Слуцкай фабрыцы персідскія і турэцкія ўзоры. Але неўзабаве былі накіраваны ў Станіслаў для навучання маладыя работнікі — Томас Хаецкі і Ян Гадоўскі. Яны вось і перанеслі ў Слуцк вопыт Станіслаўскай персіярні. З Станіслава было прывезена таксама і абсталяванне. Праз 10—15 год фабрыка стала абслугоўвацца мясцовымі сіламі, беларускімі рабочымі.

Кадры ўмелых майстроў-ткачоў былі падрыхтаваны ўсім папярэднім развіццём народнага ткацтва. Яны былі здольны хутка асвоіць складаную тэхніку выпрацоўкі шаўковых усходніх паясоў. Ткачоў вербавалі або з прыгонных, або з мяшчан. Вядомы імёны некаторых майстроў — Іосіф Барсук, Міхаіл Баранцэвіч, Канчыла, Лойка і інш.

Беларускія майстры пераймалі і творча перапрацавалі ўсходняе рамяство, надаўшы яму нацыянальны характар. На чале фабрыкі быў пастаўлен Ян Мажарскі. Яму была даручана рэарганізацыя слуцкай вытворчасці.

У дагавор, які быў заключан паміж Радзівілам і Мажарскім, уключалася абавязацельства навучыць «хлопца той рабоце персідскай».

У час, вольны ад заказаў князя, Ян Мажарскі меў права вырабляць на фабрыцы паясы з уласнага матэрыялу і прадаваць іх. Гэта спрыяла хуткаму абагачэнню Мажарскага. Пасля ён нават стаў крэдытoрам наследніка князя Міхаіла Радзівіла — Караля-Кошкі Радзівіла.

Так, каля 1773 г. Ян Мажарскі пазычыў князю 30 тысяч злотых пад заклад фальварка Сёлкі каля Слуцка. Акрамя таго, апошні быў павінен Яну Мажарскаму за паясы, узятыя ў крэдыт у розныя тэрміны. У 1776 г. Ян Ма-

жарскі, карыстаючыся матэрыяльнымі цяжкасцямі князя, атрымаў права на арэнду Слуцкай фабрыкі за 10 тысяч злотых у год.

Каля 1778 г., пасля дванаццацігадовага кіравання, Ян Мажарскі перадаў фабрыку свайму сыну Лявону.

Час, калі кіраваў фабрыкай Мажарскі, быў часам яе росквіту.

У перыяд дзейнасці ў Слуцку Яна Мажарскага быў створан той тып пояса, які зрабіўся вядомым пад назвай «слуцкага пояса». У аснову быў пакладзен пояс, выпрацаваны ў Станіславе. Сувязь з усходнімі ўзорамі стала вельмі далёкай.

Слуцкі пояс набыў гарманічныя суадносіны частак. Выпрацавалася выразная структура арнаменту. Лік арнаментальных матываў на канцах абмяжоўваецца двума, як рэдкае выключэнне сустракаюцца паясы з адным або з трыма матывамі. Арнаментацыя набыла пэўную ўстойлівасць. Улюбёнымі відамі арнаменту канцоў сталі: складаны арнаментальны матыў, які складаўся з авала, акружанага лісцем з адыходзячымі сцяблямі і кветкамі; кветкі на доўгім сцябле з адгаліненнямі, выходзячыя з зямлі або ваз; букеты кветак, заключаныя ў хвалепадобнае абрамленне.

Нярэдка ў арнамент пачалі ўключацца кветкі мясцовай флоры — васількі, незабудкі і інш.

Арнаментацыя ўсіх частак пояса страціла ўсходнюю стылізацыю і нерухомасць. Яна набыла рэалістычныя рысы ў трактоўцы, становячыся больш свабоднай.

Значным дасягненнем ткацкага майстэрства на Слуцкай персіярні было ўвядзенне двухбаковых чатырохліцавых паясоў. Магчыма, да таго часу можа быць таксама аднесена абшыўка канцоў махрамі.

Узорам вырабаў Слуцкай персіярні перыяду дзейнасці Яна Мажарскага могуць служыць два паясы (V і VI) з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея.

Пояс № 8/20094 (V). Гэты пояс шаўковы, залотны, аднабаковы (разм. 3,43 × 0,28). Сярэднік яго заткан залотнай луской па пунсоваму полю. Па краю пояса зроблен узор з букетаў пунсовых і блакітных кветак з зелянінай на залотным полі. На канцах — па залотнаму полю два букеты блакітных і пунсовых кветак галоўкамі да сярэдніка. На адным канцы па двух вуглах у вертыкальным напрамку да ўзора канца ў два радкі ткана метка: у верхнім радку «me fecit», у ніжнім — «Sluciae». На другім канцы ў тым жа напрамку ў два радкі ткана: у верхнім «Ioannes», у ніжнім — «Madzarski».

Пояс № 106/20087 (VI). Пояс гэты залотны, аднабаковы, аднаколерны (разм. 3,19 × 0,29). Сярэднік яго ў папярочных палосах.[35] У двух ніжніх вуглах аблямавання ткана метка: «me fecit Sluciae» — «мяне зрабіў Слуцк». Канцы абшыты залотнымі махрамі.

Рэдкімі ўзорамі вырабаў фабрыкі гэтага перыяду з'яўляюцца наступныя паясы з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея (VII і VIII).

Пояс № 42/20419 (VII). Пояс гэты шаўковы, з залотнай ніткай, аднабаковы (разм. 3,65×0,20). Тканы ён у няяркіх пунсовых, сініх і зялёных танах. Сярэднік яго ў папярочных палосах, гладкіх і запоўненых кветкавым арнаментам. Край залотны, арнаментаваны асобнымі невялікімі букетамі. На канцах па залотнаму полю выткана па аднаму арнаментальнаму матыву. Матыў складаецца са сцябла з кветкамі розных відаў. Кветкі звернуты галоўкамі да сярэдніка.

Па абодва бакі арнаментальнага матыву, у двух верхніх вуглах, ткана па адной невялікай птушцы. Па двух ніжніх вуглах тканы невялікія малюнкі жаночай фігуры і якойсьці жывёлы, якія звернуты да арнаментальнага матыву. На абодвух канцах па двух ніжніх вуглах абрамлення ў вертыкальным напрамку да ўзора ткана метка — на адным канцы ў два радкі: у верхнім радку «me fecit», у ніжнім — «Sluciae»; на другім канцы таксама ў два радкі: у верхнім радку «Ioannes», у ніжнім — «Madzarski». Як асаблівасць пояса варта адзначыць яго нязначную шырыню (20 см) і рэдкі выпадак арнаментацыі канца — адзін матыў і невялікія малюнкі чалавечых фігур, жывёл і птушак.[36]

У гады кіравання фабрыкай Лявона Мажарскага вытворчасць развівалася. Рэформы ў 90-х гадах XVIII ст. у Рэчы Паспалітай адбіліся на становішчы самога Лявона Мажарскага. Канстытуцыя 3 мая 1791 г. адкрыла яму доступ у рады шляхты. У 1792 г. ён стаў камергерам пры двары Станіслава Аўгуста. Палітычныя падзеі ў краіне і палітычныя сімпатыі ўладальніка фабрыкі адбіліся і на прадукцыі Слуцкай персіярні. Пасля знішчэння аўтаноміі Літвы, у склад якой уваходзіла Беларусь, і поўнага аб'яднання яе з Польшчай, Слуцкая фабрыка выпусціла паясы з меткай у выглядзе польскага дзяржаўнага герба — аднагаловага арла з каронай (гл. XLI).

Адмена канстытуцыі 3 мая была адзначана выпускам зялёных паясоў, затканых серабром. Зялёны колер сімвалізаваў надзею і месяц май. Такія паясы насіліся прыхільнікамі канстытуцыі 3 мая ў знак пратэсту і называліся «пазітыўкамі». Пасля далучэння цэнтральнай часткі Беларусі да Расіі ў 1793 г. гэтыя зялёныя паясы былі забаронены.

Палітычныя ўмовы, якія неспрыяльна скаліся для Польшчы, прымусілі Лявона Мажарскага спачатку згарнуць вытворчасць напалавіну, а затым, у 1792 г. зусім ад яе адмовіцца.

Дзейнасць Лявона Мажарскага як кіраўніка прадпрыемства выражалася ў далейшай распрацоўцы атрыманай ім спадчыны. Ён прыступіў да кіраўніцтва персіярняй, калі тып слуцкага пояса набыў поўную закончанасць. Таму Лявон Мажарскі заняўся распрацоўкай арнаментацыі сярэдніка — той часткі

пояса, якой раней удзялялася найменшая ўвага. Замест чаргавання аднолькавай шырыні палос, якія адрозніваліся колерам і арнаментам, Лявон Мажарскі ўводзіць складаную сістэму паслядоўных комплексаў палос рознай шырыні, колеру і арнаменту. Гэтыя комплексы будаваліся на кантрасце памераў, адценняў і арнаментацыі ўваходзячых у іх палос. Прымянялася супастаўленне геаметрычнага арнаменту з кветкавым.

Арнаментацыя канцоў па-ранейшаму захоўвала ўлюбёныя матывы. Каларыт пояса набываў больш яркія тоны, арнамент канцоў абводзіўся чорнай контурнай лініяй. У арнамент пастаянна ўваходзілі кветкі мясцовай флоры. Махры сталі неад'емнай часткай пояса.

Да пачатковага перыяду самастойнай дзейнасці Лявона Мажарскага адносіцца пояс № 408/79510 (XII) з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея. Пояс гэты шаўковы, залотны, двухбаковы, чатырохлiцавы (разм. 2,68 × 0,34). Сярэднік яго ў папярочных палосах. На адным баку дзве ліцавыя палавіны — аранжавая і палевая з залотнай раздзяляльнай палоскай. З адваротнага боку ліцавыя палавіны — светла-сіняя і палевая, таксама з раздзяляльнай залотнай палоскай.

Край залотны, з цёмна-зялёным парасткам, на другім баку размалёўка адваротная. На канцах па залотнаму полю каляровым шоўкам ткана па два букеты кветак. Кветкі звернуты галоўкамі да сярэдніка. На адным канцы па двух ніжніх вуглах абламавання ткана па-латыні метка ў прамым і адваротным парадку — «Sluck». На другім канцы ў абламаванні па двух ніжніх вуглах тканы літары «S. F.» — «Sluck fecit» — «Слуцк зрабіў».

Да гэтага ж перыяду адносяцца і наступныя паясы з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея (XIII—XX).[37]

З далучэннем Беларусі да Расіі Слуцк у 1795 г. робіцца павятовым горадам Мінскага намесніцтва. У рапарце Мінскага губернскага праўлення 1797 г. ёсць ведамасць аб мануфактурах за 1796 г. У гэтым дакуменце ўпамінаецца «ў мястэчку Слуцку належачая малалетняму князю Дамініку Радзівілу мануфактура польскіх кушакоў шляхціча Лявона Мажарскага».*)

За час свайго існавання Слуцкая фабрыка, акрамя паясоў, часам выраблялa залотныя шаўковыя тканіны і асобныя тканыя рэчы.

У Яраслаўскім краязнаўчым музеі, напрыклад, захоўваюцца два амафоры (частка праваслаўнага культавага адзення), нібы літыя, сярэбраныя, з маляўнічым каляровым шлячком. Адзін з іх — № 1796 (XXI). У шлячку — кветкі блакітныя і светла-пунсовыя. У вуглу маецца метка «Sluck». Відаць, гэтыя амафоры вытканы па спецыяльнаму заказу. Метка па-латыні «Sluck»

*) И. Зеленский. О мануфактурах Минской губернии. Описание Минской губернии. 1864.

дае падставу аднесці амафоры да часу не пазней сярэдзіны 80-х гадоў XVIII ст.

У Дзяржаўным Гістарычным музеі маюцца два фрагменты кароткага адзення, відаць, жаночага (№ 1593/20751 і № 1596/2075). На абодвух фрагментах па краю праходзіць шырокая белая атласная стужка-беражок з тканым надпісам рускімі літарамі «Слуцкъ». Тканіна можа быць аднесена да канца XVIII ст.

У 1807 г. тэрмін арэнды Лявона Мажарскага скончыўся і фабрыка перайшла ў непасрэднае падначаленне Радзівілаў. Кіраўніком быў назначан беларус, былы пісар Фама Барсук.

Слуцкая фабрыка працавала да 1844 г. Аднак характар прадукцыі апошняга перыяду (1807—1844 гг.) зусім мяняецца. Пасля далучэння Беларусі да Расіі ў пачатку XIX ст. было забаронена насіць кафтаны (кунтушы). У сувязі з гэтым адпала неабходнасць у слуцкіх паясах, і вытворчасць іх спынілася. Слуцкая фабрыка пачала выпускаць узорыстыя і залотныя тканіны, галоўным чынам для патрэбы царквы.

Аб размеры вытворчасці Слуцкай персіярні можна меркаваць па архіўных даных. У рапарце Мінскага губернскага праўлення 1797 г. у ведамасці аб мануфактуры за 1796 г. гаворыцца, што фабрыка Лявона Мажарскага вырабляе паясоў «шаўковых з золатам да 200 штук у год».*)

Зарнавецкі ў сваёй рабоце**) адзначае, што на персіярні Мажарскага мелася 24 ручных станы для вытворчасці паясоў. Калі супаставіць прыводзімыя даныя, то атрымаецца, што на кожным стане за год выраблялася ў сярэднім 45 м тканых паясоў. Вышэй намі ўжо паведамлялася аб колькасці прадукцыі, якая выпрацоўвалася кожным ткачом шаўковых паясоў на фабрыцы князя Юсупава. Кожны ткач вырабляў за месяц каля 3 аршын, г. зн. 2 м 16 см, што складае каля 26 м у год. Неабходна ўлічваць, што выраб маскоўскіх паясоў быў менш працаёмкім, чым выраб слуцкіх, таму можна дапусціць, што ў Слуцку на кожны стан прыпадала ў сярэднім па два ткачы. Значыць, у 1796 г. агульная колькасць ткачоў на Слуцкай персіярні была прыблізна 48 чалавек. Калі прыняць пад увагу, што яшчэ да 1792 г. вытворчасць была згорнута напалавіну, то, відаць, агульная колькасць рабочых у перыяд росквіту фабрыкі дасягала 100 чалавек і больш.

Для мануфактурнай вытворчасці Слуцкую персіярню можна лічыць буйным прадпрыемствам.

Нам невядома паходжанне ткацкіх станаў. Магчыма, што яны былі зроб-

---

*) И. Зеленский. О мануфактурах Минской губернии. Описание Минской губернии. 1864.

**) D-r Longin Zarnowiecki. Historya tkanin jedwabnych, Kijów, 1915, стар. 114.

лены на месцы. Частка інструментарыя дастаўлялася з-за граніцы. Напрыклад, металічныя каткі для пракатвання залотных паясоў літых былі па частках тайна прывезены з Канстанцінопаля Янам Мажарскім. Пазней гэтыя каткі рабіліся мясцовымі майстрамі ў Слуцку.

Матэрыял для ткацтва — шоўк, залотную нітку і інш. прывозілі з-за граніцы праз Гданск.

## ПРАДУКЦЫЯ СЛУЦКАЙ ФАБРЫКІ

Слуцкія паясы вырабляліся на ручных станах. Аснова ў слуцкіх паясоў была заўсёды шаўковая, уток — або шаўковы, або залотных нітак. Перапляценне асновы і ўтку армюрнае, т. зн. вытворнае ад гарнітура. Часта тканіна пояса была двухліцавая. Гэта дасягалася тым, што на адной аснове тут два ўткі розных колераў.

На гарызантальным стане з бёрдам магло працаваць па чатыры чалавекі. Таму тканіна пояса часам мае два ліцавыя бакі — розныя па колеру і рысунку. Такія паясы па ўсёй даўжыні маюць дзве палавіны. Кожная палавіна мае па два розных па колеру ўткі. У гладкіх палосах адзін уток праходзіць зверху, другі — знізу. Пераменаю месц утку дасягалася ўзорыстасць.

Для больш дакладнага азнаямлення з тэхнікай ткацтва слуцкага пояса прыводзім тэхнічны аналіз. Аналіз зроблен выкладчыкам ткацкай вытворчасці і загадчыкам ткацкімі майстэрнямі Маскоўскага мастацкага прамысловага вучылішча імя Калініна В. С. Малчанавым.

Для аналізу ўзят фрагмент сярэдніка слуцкага пояса № 150/20102 (XXII) з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея. Тканіна яго шаўковая, залотная, аднабаковая, у папярочных палосах. Гладкія сінія палосы чаргуюцца з залотнымі, запоўненымі траўным узорам. Узор зроблен пунсовым, зялёным і светла-сінім шоўкам.

### ТЭХНІЧНЫ РАЗЛІК ЗАПРАЎКІ

Будова тканіны: тканіна па перапляценню адналіцавая і складаецца з дзвюх асноў і двух уткоў з некалькімі дадатковымі ўткамі «броше». Адна аснова прыціскная, другая запаўняючая. Адносіны нітак асноў як 1:1.

На правым баку пояса ўзор зроблен каляровымі ўткамі, якія зусім закрываюць ніткі асновы.

Прыціскная аснова пераплятаецца з уткамі палатняным перапляценнем, а запаўняючая, знаходзячыся ў сярэдзіне, падзяляе ўткі на верхні і ніжні.

Выпрацоўка пояса на стане вядзецца ліцавым бокам уніз. Узор робіцца трыма перапляценнямі:

1-е перапляценне — фон з мішуры (рыс. 1). Профіль і канвовы рысунак перапляцення (ярлык).

2-е перапляценне — акантоўка фігур (рыс. 2). Профіль і канвовы рысунак перапляцення.

3-е перапляценне — для ўткоў «броше» (рыс. 3). Профіль і канвовы рысунак перапляцення, ён жа ярлык.




Рыс. 1.




Рыс. 2.




Рыс. 3.

Заправачны запіс: пояс слуцкі шаўковы з мішурой, шырыня 32 см, даўжыня 3—4 м.

Шчыльнасць асновы: 36 нітак на 1 см, з якіх 18 нітак прыцiскной асновы, шоўк натуральны № м — 450, і 18 нітак запаўняючай асновы, таксама шоўк натуральны № м — 450, тры за адну.

Шчыльнасць утку: 88 пракідак на 1 см, з якіх 44 пракідкі мішуры залатой або сярэбранай № м — 18 і 44 пракідкі шоўк натуральны № м — 310, фарбаваны.

Перапляценне: жакардавае, тыпу двухліцавых з утку з дадатковымі ўткамі «броше» і з запаўняючай асновай.

Сярэдзіна ўзора (пояса) складаецца з 2 радковых частак па 12 см шырынёй; па краях ідуць шлячкі з абодвух бакоў сіметрычныя, па 4,2 см шырынёй — гэта вызначае праборку касейнай дошкі ў ткацкім стане.

Сноўка: I навой запаўняючай асновы — 576 нітак 3/1 (тры за адну); II навой прыціскной асновы — 576 нітак + для закраек па 2 ніткі 8/1 (восем за адну) з кожнага боку.

Жакардавая машына: 6-сотка. 576 кручкоў пад рысунак, па 2 канцы арката на кожны, усяго 1156 канцоў арката.

Касейная дошка: 1156 адтулін, праборка, змешаная па рысунку (гл. рыс. 4), шырыня 32 см.




Рыс. 4.

Праборка асновы: у ліца жакардавай машыны радковая; парадак праборкі асноў: адна нітка прыціскной асновы, адна нітка запаўняючай асновы і г. д.— у такім парадку вядзецца праборка нітак асновы.

Бёрда: 578 зубоў, па 2 ніткі ў зуб, шырыня 32 см, № м — 180.

## РАЗЛІК ПАТРОНА І ЗАПІСКА НАСЯКАЛЬШЧЫКУ

Патрон робіцца па спосабу заліўкі (суцэльная афарбоўка кожнага эфекта) (гл. рыс. 5).

У патроне ўзор выканан трыма перапляценнямі, якія адпавядаюць тром колерам фарбы ў патроне:

1) белы фон (бель) адпавядае насцілу ўтку з мішуры залатой або сярэбранай;

2) блакітны колер у патроне адпавядае насцілу карычневага ўтку;

3) колеры зялёны, ружовы і іншыя ў асобных месцах узора адпавядаюць каляровым уткам «броше» (утком «броше» называецца ўток, які пракладваецца толькі ў месцах свайго ўзора, а не па ўсёй шырыні тканіны, як звычайныя ўткі).

У адным вертыкальным міжрадкоўі канвовага рысунка лічыцца 4 ніткі асновы (2 прыціскных і 2 запаўняючых), якія адпавядаюць чатыром кручкам жакардавай машыны.

У адным гарызантальным міжрадкоўі лічыцца 4 пракідкі ўтку (2 для ліцавога боку і 2 для адваротнага), што адпавядае чатыром картам жакардавай




Рыс. 5.

машыны, а на месцы ўткоў «броше» гарызантальны радок будзе роўны 6 картам, таму што дадаецца 2 карты для ўткоў «броше».

Колеры фарбаў патрона для кожнай карты насякаюцца па рысунках-ярлыках (рыс. 1, 2, 3) так:

1-я карта для ўтку мішуры:

Бель — фон — з патрона прасякаецца па першым радку ярлыка (рыс. 1).

Блакітны і ўсе астатнія колеры прасякаюцца па першым радку ярлыка (рыс. 2 і 3).

2-я карта для карычневага ўтку:

Бель і ўткі «броше» прасякаюцца па другім радку ярлыка (рыс. 1).

Блакітная фарба прасякаецца па другім радку ярлыка (рыс. 2).

3-я карта для ўтку мішуры:

Прасякаецца, як першая, толькі ў ярлыках (рыс. 1, 2 і 3) чытаюцца трэція радкі.

4-я карта для карычневага ўтку:

Прасякаецца, як другая карта, толькі ў ярлыках (рыс. 1 і 2) чытаюцца чацвёртыя радкі.

Гэтыя чатыры карты для ўткоў мішуры і шоўка карычневага называюцца грунтавымі, бо яны пракідваюцца ва ўсю шырыню тканіны ў адрозненне ад уткоў «брошэ», якія называюцца падкладнымі.

У месцах патрона, дзе будуць уткі «брошэ», для іх прасякаюцца асобныя карты, падкладныя; яны будуць займаць месца пасля другой карты карычневага ўтку і пасля чацвёртай карты карычневага ўтку.




Рыс. 6.

Прасякаюцца гэтыя карты так:

1-я падкладная карта, якая ідзе пасля другой грунтавой карты, для ўткоў «брошэ» прасякаецца ў месцах фарбаў уткоў па трэцім радку ярлыка (рыс. 3);

2-я падкладная карта, якая ідзе пасля чацвёртай грунтавой карты, прасякаецца ў месцах фарбы ўткоў «брошэ» па шостым радку ярлыка (рыс. 3).

Усе карты, насечаныя з аднаго боку патрона, нумаруюцца адной і той жа лічбай, якая абазначае нумар грунтавых пракідак аднаго радка патрона, маючы толькі літарнае абазначэнне ў дадатак да лічбы грунту для правільнай арыенціроўкі іх парадку (гл. рыс. 6).

* * *

Слуцкі пояс прадстаўляе сабой доўгае шаўковае палотнішча з узорам, часам у большай ці меншай ступені затканае залотнай ніткай. Даўжыня і шырыня палотнішча не маюць акрэсленых размераў. Даўжыня вагаецца ад 2 да $4^1/_2$ м. Шырыня — ад 20 да 40 см.

Як было ужо сказана, паясы ткаліся адналіцавыя, двухліцавыя і чатырохліцавыя. Адналіцавыя паясы мелі адваротны бок. Двухліцавыя паясы маглі або зусім не мець адваротнага боку — абодва бакі ліцавыя, або мець адваротны бок — адзін бок двухліцавы. Такія паясы складваліся напалам па шырыні ва ўсю іх даўжыню.

Слуцкі пояс складаецца з трох частак — сярэдніка з аблямаваннем і двух канцоў.

Тыповым узорам слуцкага пояса можа служыць пояс № 74/20931 (XXIII) з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея. Рысунак паказвае пояс у разгорнутым выглядзе.

Пояс гэты шаўковы, залотны, двухбаковы, чатырохліцавы (разм. 3,76×0,36). Сярэднік яго ў папярочных палосах. На адной палавіне гладкія аранжавыя палосы, на другой — гладкія палевыя. З другога боку на адной палавіне гладкія ярка-сінія палосы, на другой — светла-карычневыя. Ва ўсю шырыню сярэдніка ідуць вузкія размяжоўваючыя залотныя палосы з чорнымі кантамі. З другога боку расфарбоўка адваротная. Край — па залотнаму полю чорны павой з ярка-пунсовымі і светла-сінімі кветкамі. З другога боку па чорнаму полю залотны павой. На канцах па залотнаму полю па два буйных букеты кветак галоўкамі да сярэдніка (XXIV). Кветкі ярка-пунсовыя і светла-сінія, лісце чорнае. З другога боку — поле чорнае, лісце залотнае.

На адным канцы пояса ў аблямаванні па двух ніжніх вуглах у адзін радок у прамым і адваротным парадку ткана метка лацінскімі літарамі «Sluck». Канцы абшыты залотнымі махрамі.

Слуцкія паясы насычаліся ў розная ступені залотнай ніткай (сярэбранай і залочанай).

Меўся асобны від пояса з залотнай ніткай — так званы «літы». Яго ліцавы бок быў густа заткан залотнай ніткай, так, што не відаць было шаўковай асновы. Узорам літага пояса можа служыць пояс № 66/21383 (XXV) з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея.

Пояс гэты шаўковы, залотны, двухбаковы, двухліцавы (разм. 3,83×0,29). Сярэднік — па залотнаму полю арнамент з размешчаных радамі клейм з трылісцікамі ўнутры. Клеймы і трылісцікі цемна-карычневыя. Край — па залотнаму полю арнамент з хвалістай стужкі і шасціпялёсткавых кветак. Стужкі і кветкі цёмна-карычневыя. На канцах па залотнаму полю ткана па два цёмна-карычневых букеты невялікіх кветак. Букеты звернуты кветкамі да сярэдніка. На процілеглым баку размалёўка адваротная. На адным канцы ў аблямаванні па двух ніжніх вуглах у прамым і адваротным парадку ткана метка лацінскімі літарамі «Sluck». Канцы абшыты залотнымі махрамі.[38]

Улюбёнымі спалучэннямі ў расфарбоўцы слуцкіх паясоў былі аранжавы з сінім і з золатам, пунсовы з сінім і з золатам і інш.[39]

Кожная частка слуцкага пояса мае сваю распрацаваную арнаментацыю. Сярэднік часцей за ўсё арнаментаваўся папярочнымі палосамі, раздзеленымі лініямі дробна-кропкавага, гарошчатага, фігурнага арнаменту, або тонкімі палосамі. Гэтыя палосы маглі быць аднолькавымі па шырыні або чаргаваліся вузкія з больш шырокімі. Палосы ткаліся гладкія і арнаментаваныя. Такі ха-

рактар арнаментацыі сярэдніка глыбока нацыянальны і да апошняга часу захаваўся ў беларускім народным ткацтве.

Радзей арнамент сярэдніка рабіўся сятчатым, лускаватым, у гарошак, яшчэ радзей — раслінным.

Узорамі афармлення сярэдніка лускаватым арнаментам, у гарошак і раслінным у спалучэнні з геаметрычным могуць служыць паясы з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея № 51/21410 (XXXI), № 330/21337 (XXXII), № 413/80056 (XXXIII), № 7/21409 (XXXIV), № 53/20089 (XXXV).

Сустракаюцца паясы з гладкім сярэднікам.

Шлячок пояса даволі разнастайны па арнаменту, які звычайна бывае раслінным. Часцей гэты шлячок пераходзіць і на канцы пояса.

Найбольш складана арнаментаванай часткай пояса з'яўляюцца яго канцы. У большасці арнамент канцоў складаецца з двух раслінных матываў, часам акружаных парасткам. Рэдка колькасць матываў дасягае трох, як выключэнне сустракаюцца паясы з адным матывам. Матывы бываюць у выглядзе дрэва з каранямі, дрэў або кветак, якія растуць з вазонаў, букетаў кветак у вазах, без ваз і радзей вянкоў. Часам сустракаюцца матывы з чалавечымі фігурамі і малюнкамі жывёл.

Ад сярэдніка канец аддзяляецца прамежкавай лініяй або палоскай траўнага арнаменту. Такая ж лінія або палоска завяршае ніжні край канца. Часам канец мае самастойнае аблямаванне. Да ніжняга краю канца звычайна прышываліся шаўковыя або залотныя махры.

Махры рабіліся з шаўковай ніткі рознай ступені кручанасці, што надавала ім большую ці меншую пругкасць. Яны звычайна звісалі асобнымі ніткамі. Часам ніткі махроў каля асновы дзяліліся на пасмы, перабіраліся і змацоўваліся папярочнай ніткай. Такія пераборы, паўтараючыся і дробячыся стваралі своеасаблівую рашотчатасць. Ніжэй ніткі звісалі свабодна, асобнымі пасмамі.

Даўжыня махроў бывала розная — ад 0,5 да 0,20 м. Махры звычайна рабіліся аднатоннымі. Колеры махроў — пераважна залацісты розных таноў і белы.

У залотных паясах махры рабіліся залотныя — залатыя або сярэбраныя. У двухліцавых залотных паясах (залотных і сярэбраных) махры рабіліся ў адной палавіне залатыя, у другой — сярэбраныя.

У асобных выпадках сустракаюцца паясы з махрамі двух і больш колераў. Колеры паўтараюць асноўны тон пояса. На жалобным поясе (гл. XLII), тканым у чорным і белым колерах, махры складаюцца з чорных і белых нітак.

На поясе № 73/20111 з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея, тканым у светла-карычневых, светла-сініх танах з удзелам белага колеру, махры складаюцца з нітак адпаведных колераў.

Махры складаюць тыповую асаблівасць слуцкіх паясоў. Яны не прадстаў-

ляюць сабой арганічнага цэлага з поясам, г. зн. не з'яўляюцца працягам асновы, як гэта бывае на маскоўскіх паясах. Махры слуцкіх паясоў заўсёды прышываюцца да канцоў. На ўсходніх паясах таксама сустракаюцца прышыўныя махры. Аднак на ўсходніх паясах яны прадстаўляюць не тыповую з'яву, а хутчэй выпадковую.

Завяршэнне слуцкага пояса махрамі было ўзята не ад усходняй традыцыі. Яно, відаць, было выклікана мясцовымі густамі: народны беларускі мужчынскі тканы пояс звычайна завяршаецца кутасамі або махрамі.*) Магчыма, што беларуская традыцыя завяршэння пояса была перанесена на афармленне слуцкага пояса.[40]

Як ужо адзначалася, на канцах паясоў ткалася вытворчая метка. Гэты звычай мае непасрэдную сувязь з традыцыямі ўсходняй вытворчасці. На слуцкіх паясах метка, відаць, паявілася з самага пачатку іх вырабу або з пачатку кіравання фабрыкай Янам Мажарскім. Метка звычайна ставілася на двух ніжніх вуглах канца пояса. У большасці выпадкаў яна ткалася на абодвух канцах, радзей — на адным.

Метка мела розныя формы. Імя і прозвішча Мажарскага ў лацінскай транскрыпцыі заўсёды даваліся поўнасцю — у напісанні прамым і адваротным. Абазначэнне месца вытворчасці — таксама ў лацінскай транскрыпцыі — у прамым і адваротным напісанні або поўнасцю, або ініцыяламі (у апошнім выпадку імя і прозвішча Мажарскага зусім не ставіліся).

На поясе № 42/20419 (VII) метка размяшчаецца на абодвух канцах. На адным канцы ў кожным ніжнім вуглу ў два радкі выткана: у верхнім радку «Ioannes», у ніжнім — «Madzarski». На другім канцы таксама ў два радкі па двух вуглах выткана: у верхнім радку «me fecit», у ніжнім — «Sluciae» — «мяне зрабіў Слуцк».

Ёсць і другі варыянт меткі ў лацінскай транскрыпцыі. Толькі на адным канцы пояса, у адным — левым ніжнім — вуглу ў два радкі выткана: у верхнім злітна «mefecit», у ніжнім — «Sluciae» (VI).

Асаблівую цікавасць прадстаўляе метка на поясе № 408/79510 (XII). На адным канцы ў левым ніжнім вуглу шлячка ў гарызантальным становішчы ў адносінах да арнаменту канца выткана дзве лацінскія літары «S. F.». На другім канцы ў правым вуглу шлячка стаіць па-латыні «Sluck». Звычайна паясы з меткай «S. F.» адносяць да вырабу фабрыкі S. Filsjean у Кабылках пад Варшавай. «S. F.» расшыфроўваюць як імя і прозвішча ўладальніка фабрыкі.

На поясе № 408/79510 маюцца адначасова дзве меткі — «S. F.» і «Sluck».

---

*) И. А. Сербов. Белорусы-сакуны. Краткий этнографический очерк. Сборник Отделения русского языка и словесности имп. Академии наук, т. 94, Петроград, 1916, стар. 5.

Абазначэнне месца вытворчасці «Sluck» дазваляе сцвярджаць, што гэты пояс з'яўляецца вырабам фабрыкі Мажарскага. Літары «S. F.» могуць быць расшыфраваны як метка лацінскай транскрыпцыі «Sluciae fecit».

Магчыма, што паясы, якія носяць толькі адну метку «S. F.» і якім уласцівы рысы слуцкай прадукцыі, з'яўляюцца вырабамі Слуцкай персіярні. Абгрунтаваннем нашага меркавання можа служыць той факт, што многія паясы з меткай «S. F.» сваім узорам, расфарбоўкай, матэрыялам літаральна паўтараюць паясы з меткай «Sluck», «mefecit Sluciae» і інш.

Ёсць метка і ў польскай транскрыпцыі на поясе Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў СССР № 1827 — 2 (XLI). Пояс гэты шаўковы, аднабаковы, ткан у цёмна-пунсовых танах з серабром (разм. 3,23×0,38). Сярэднік яго паласаты, у палосах узор з агуркоў і дубовых лісцяў. На канцах па сярэбранаму полю тканы цёмна-пунсовыя касачы. На канцах ткана метка. Яна складаецца з малюнкаў двух польскіх дзяржаўных арлоў, аднагаловых у кароне, размешчаных паабапал арнаментальнага матыву канца. Ніжэй выткана па-латыні «Sluck» — абазначэнне месца вытворчасці. Літары размешчаны не па гарызанталі, а па вертыкалі.

Магчыма, што такая метка ставілася ў гады аб'яднання Літвы з Польшчай, г. зн. паміж 1791 і 1793 гадамі.*)

Былі распаўсюджаны меткі і ў рускай транскрыпцыі. Гэтыя меткі ткаліся лацінскім шрыфтам і рускім.

На поясе з калекцыі Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў СССР № 3392 — 1 на канцы лацінскімі літарамі выткана ў два радкі: у верхнім злітна «Wogradae», а ў ніжнім — «Sluckae». Пояс шаўковы, аднабаковы, выткан у карычневых і жоўтых танах (разм. 3,31×0,39). Бытаваў ён на Украіне.

На поясе з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея № 39/21941 на адным канцы ў двух ніжніх вуглах па-руску ў два радкі выткана: у верхнім радку «Лео Ма», у ніжнім — «жарский». На другім канцы, таксама ў двух ніжніх вуглах, у прамым і адваротным парадку ў два радкі выткана па-руску: у верхнім радку разам «въграде», у ніжнім — «Слуцке».

Меткі з рускай транскрыпцыяй лацінскім і рускім шрыфтам паяўляюцца ў сярэдзіне 80-х гадоў XVIII ст. Гэта можна тлумачыць спачатку ўзмацненнем эканамічных сувязей з Расіяй, а потым палітычным аб'яднаннем.

Як і ўсходнія кушакі, слуцкія паясы насілі на верхнім адзенні. Такія паясы завязваліся спераду вузлом, канцы аднолькавай даўжыні спускаліся па баках.

---

*) Канстытуцыя 3 мая 1791 г. знішчыла аўтаномны лад Літвы і поўнасцю аб'яднала Літву з Польшчай. У 1793 г. Беларусь, якая ўваходзіла ў склад Літвы, адышла да Расіі. Значыць, метка з польскім арлом магла паявіцца не раней 3 мая 1791 г. і не пазней 1793 г.

Слуцкія паясы надзяваліся ў самых розных жыццёвых выпадках. Яны бывалі будзённыя, святочныя, вясельныя і жалобныя.[41]

Паясы надзявалі рознымі спосабамі — па стану, вышэй стану або ніжэй, туга або свабодна, прама або набок. Гэта залежала або ад звычаю або ад густу ўладальніка пояса. Спосаб нашэння пояса можна прасачыць па партрэтах XVIII ст., якія захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі.

Паясы слуцкай вытворчасці выцiснулі ўсходнія і шырока распаўсюдзіліся сярод заможных слаёў. Шляхта, багатае мяшчанства, казачая старшына былі асноўнымі спажыўцамі Слуцкай персіярні.

У Чарнігаўскім гістарычным музеі, напрыклад, ёсць рад паясоў слуцкай работы, якія бывалі сярод казацкай старшыны. Прыкладам могуць служыць паясы № 3827 — I — 482 і № 3828 — I — 485.

Першы пояс — двухбаковы, затканы золатам і серабром з кветкамі і арабескамі розных колераў. З аднаго боку фон залаты і сярэбраны, а з другога — цёмна-карычневы з залатымі і сярэбранымі кветкамі і арабескамі. На адным канцы надпіс: «В граде Слуцке». Махры залатыя, доўгія.

Другі пояс — двухбаковы, шаўковы, разнаколерны. З аднаго боку — на жоўтым фоне цёмна-карычневыя кветкі і на зялёным і белым жоўтыя арабескі; з другога боку — на цёмна-карычневым фоне жоўтыя кветкі, а на жоўтым фоне блакітныя і белыя арабескі. На ўсіх вуглах літары «S. F.». Махры жоўтыя, шаўковыя.





# УПЛЫЎ СЛУЦКАЙ ФАБРЫКІ НА ВЫТВОРЧАСЦЬ ПАЯСОЎ У РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ



Попыт на слуцкія паясы быў такі вялікі, што выклікаў паяўленне многіх персіярань, размешчаных у розных частках Рэчы Паспалітай.

На тэрыторыі Беларусі найбольш вядомы былі персіярні ў Нясвіжы, у Жмігрудах (каля Горліц, у Радзівілаў), у Ружанах (ваяводства Навагрудскае, у Сапегаў), на Падляссі (у князя Міхаіла Агінскага), у Карэлічах, Гародніцы і Ласосне (пад Гродна).

На тэрыторыі Польшчы атрымалі вядомасць персіярні ў Кабылках і Ліпкаве (пад Варшавай), рад прадпрыемстваў у Кракаве, прадпрыемства ў Джэвіцах (пад Радамам). І, нарэшце, прадпрыемства ў Гданску, у прадмесці Шыдлоўцы.

Гэтыя прадпрыемствы знаходзіліся пад моцным уплывам Слуцкай фабрыкі. Звычайна паясы гэтых персіярань ішлі пад назваю «слуцкіх паясоў».

У большасці выпадкаў персіярні засноўваліся магнатамі або прадстаўнікамі шляхты, якія перадавалі справу прадпрыемцам таксама, як і ў Слуцку. Гэта тлумачыцца тым, што па заканадаўству, якое існавала ў Рэчы Паспалітай да 1791 г., гандлёва-прадпрыемніцкая дзейнасць была забаронена феадальнаму саслоўю пад пагрозай пазбаўлення шляхецкай годнасці.

Акрамя таго, мелася значная колькасць саматужнікаў, якія выраблялі шаўковыя паясы.

Звычайна гэтыя персіярні і саматужныя майстэрні не выпрацоўвалі свайго індывідуальнага афармлення пояса. Яны выкарыстоўвалі ўжо гатовыя ўзоры, усходнія і слуцкія, часам уносячы ў іх некаторыя змяненні. Падобныя персіярні не мелі вялікага значэння і не зрабілі каштоўнага ўкладу ў майстэрства ткання паясоў. Аднак у асобных выпадках яны паслужылі асновай для ўзнікнення значных прадпрыемстваў шаўковых паясоў з індывідуальнымі асаблівасцямі распрацоўкі арнаменту.

Такія прадпрыемствы распрацавалі разнавіднасць слуцкага пояса, якую можна назваць польскім тыпам. У аснову польскага пояса былі пакладзены размеры, чляненне і структура арнаменту, распрацаваныя на Слуцкай персіярні пад кіраўніцтвам Яна і Лявона Мажарскіх.

Адрозненне польскіх паясоў ад слуцкіх заключаецца ў характары арнаменту і каларыце. У асобных выпадках выкарыстоўвалася арнаментацыя слуцкіх паясоў, але ў самастойнай трактоўцы. Тып польскага пояса быў распрацаван радам персіярань. Пачатак паклала фабрыка ў Гродна. Далейшае развіццё ішло на варшаўскіх фабрыках (Кабылкі і Ліпкава). Заключны этап выпрацоўкі польскага пояса — Карэц на Валыні. Польскія паясы можна разглядаць як далейшую распрацоўку форм слуцкага пояса.[42]

Персіярня ў Кабылках была заснавана Унругам, старастам Хамерштынскім, і перададзена прадпрыемцу французу S. Filsjean. У 1778 г. тэхнічнае кіраўніцтва прадпрыемствам перайшло да F. Selimand.

У Кабылках разгортваўся другі этап дзейнасці F. Selimand. Як і ў Гродна, ён і тут узнімае прадукцыю персіярні на высокі ўзровень. Гэта быў перыяд росквіту персіярні. Паясы выпрацоўкі F. Selimand адзначаюцца прыгожасцю арнаментацыі і хараством расфарбоўкі.

На паясах персіярні ў Кабылках ставілася метка. Метка ткалася ў абрамаванні канцоў пояса па ніжніх вуглах і мела некалькі варыянтаў. Канцы абшываліся махрамі.[43]

Высокай якасці дасягнулі паясы Ліпкаўскай персіярні. Яна належала Якаву Пасхалісу.

Якаў Пасхаліс (армянін, родам з Такату ў Малой Азіі) з 1761 г. пасяліўся ў рэчы Паспалітай. Ён быў купцом, які гандляваў у Варшаве ўсходнімі таварамі і заснаваў тут персіярню. Другую персіярню Я. Пасхаліс заснаваў пад Варшавай у фальварку Ліпкава. Тут вытворчасцю кіраваў вучань F. Selimand, імя якога невядома. У 1789 г. Я. Пасхаліс заключыў дагавор з F. Selimand на кіраўніцтва персіярняй у Варшаве.

У далейшым гэта персіярня была пераведзена ў Ліпкава і аб'яднана з ужо існаваўшай тут фабрыкай. Кіраўніцтва было даручана F. Selimand. Гэта быў

трэці этап дзейнасці французскага майстра, зрабіўшага Ліпкаўскую персіярню шырока вядомай.[44]

Метка Ліпкаўскай персіярні мае некалькі відаў. Вельмі распаўсюджанай з'яўляецца метка з абазначэннем прозвішча ўладальніка фабрыкі. Метка размяшчаецца па двух ніжніх вуглах абламавання канцоў пояса. Яна даецца поўнасцю ў лацінскай транскрыпцыі ў два радкі „Pascha/lis".

Сустракаецца метка і больш рэдкая: у лацінскай транскрыпцыі ў два радкі «Paschalis me fecit» — «Пасхаліс мяне зрабіў».

Вельмі частымі з'яўляюцца паясы з меткай у выглядзе ініцыялаў лацінскім шрыфтам «P. J.». (Paschalis Jakubowitz). Гэта метка адносіцца да перыяду дзейнасці фабрыкі пасля 1791 г., г. зн. калі Якаў Пасхаліс атрымаў прозвішча Якубовіч.

Да гэтага ж часу адносіцца метка з малюнкам герба Пасхаліса — белы барашак з чырвоным сцяжком на зялёным полі. Па абодвух баках герба размешчаны лацінскія літары «P. J.» — ініцыялы яго ранейшага і новага прозвішча.[45]

Апошні этап развіцця польскага пояса звязан з вытворчасцю ў Карцы на Валыні ў Чартарыйскіх. Карэцкая персіярня таксама, як і Гродзенская, Ліпкаўская, абавязана сваім росквітам дзейнасці F. Selimand. Невядома, калі F. Selimand абаснаваўся ў Карцы і калі закончыў сваю дзейнасць, але ва ўсякім выпадку ў 1800 г. ён знаходзіўся яшчэ ў Карцы.

Карэцкія паясы характарызуюцца малой разнастайнасцю арнаменту і ўзмацненнем уплыву Захаду.[46]

З іншых цэнтраў выпрацоўкі паясоў трэба адзначыць Кракаў. Тут мелася некалькі дробных прадпрыемстваў саматужнага тыпу, заснаваных палякамі. Гэтыя прадпрыемствы часам не мелі абаротнага капіталу і нярэдка працавалі на заказ.

Прадукцыя кракаўскіх прадпрыемстваў не адрознівалася арыгінальнасцю ў распрацоўцы арнаменту.

Кракаўскія майстэрні аднаўлялі слуцкія, гродзенскія, кабылкаўскія, ліпкаўскія ўзоры, уносячы ў іх некаторыя нязначныя змяненні. Часам арнамент рабіўся па жаданню заказчыка. Але сустракаюцца таксама асобныя спробы самастойнай распрацоўкі арнаментацыі і каларыту.

Структура пояса заставалася слуцкай.

Вядомы былі і майстэрні Франца-Кайтана Маслоўскага, Даніэля Хмялеўскага, Антона Пуцілоўскага.

Часам сустракаюцца цэлыя паясы або фрагменты паясоў, у якіх канцы не маюць вытворчых метак. Меткі альбо не былі вытканы, альбо былі згублены.

Вельмі цяжка высветліць паходжанне такіх паясоў. Гэта можна зрабіць толькі на аснове вывучэння арнаменту, каларыту і параўнання паясоў.[47]

Вытворчасць паясоў тыпу слуцкіх атрымала развіццё і ў Данцыгу-Гданску, горадзе, які быў эканамічна звязан з Рэччу Паспалітай. Гданск на працягу трох стагоддзяў, з XV па XVIII ст., адыгрываў значную ролю на польска-літоўскім рынку. Праз Гданск вёўся транзітны гандаль Рэчы Паспалітай з іншымі краінамі.

Цесная сувязь з польска-літоўскім рынкам выклікала да жыцця ў Гданску вытворчасць шаўковых паясоў, на якія ў Рэчы Паспалітай меўся вялікі попыт.

Прыкладам данцыгскай вытворчасці можа служыць пояс № 78/21407 з калекцыі Дзяржаўнага Гістарычнага музея. Пояс гэты двухбаковы (разм. 4,02×0,35). Ткан пояс у ярка-жоўтых, малінавых і блакітна-шэрых танах у спалучэнні з чорным. Сярэднік яго ў папярочных палосах, раздзелены дробным шашачным арнаментам. На адных палосах букеты кветак, на другіх — чорны геаметрычны арнамент у выглядзе буйнай касой клеткі.

На канцах па чорнаму полю два букеты кветак, якія выходзяць з ваз у напрамку да сярэдніка. У абрамаванні пояса па двух ніжніх вуглах у два радкі, у прамым і адваротным парадку, ткана метка: у верхнім радку «Besch», у ніжнім — «Danzig».

Схема дэкаратыўнага афармлення пояса агульная са слуцкімі паясамі. Сярэднік яго ў папярочных палосах, на канцах па два арнаментальных матывы. Аднак узор распрацаван у духу дэкаратыўнага мастацтва Заходняй Еўропы канца XVIII ст. Спалучэнне колераў — чорнага, ярка-жоўтага з малінавым — таксама неўласціва слуцкім паясам.

Значны попыт на шаўковыя паясы, які ў XVIII ст. меўся на рынках Рэчы Паспалітай, прыцягнуў да сябе ўвагу замежных купцоў і прамыслоўцаў. Вытворчасцю паясоў тыпу слуцкіх заняліся шаўкаткацкія прадпрыемствы Францыі. Вядома фабрыка ў Ліёне, якая належала П'еру Тусену Дэшазель. Яна выпускала паясы тыпу слуцкіх.[48]





## УЖЫВАННЕ СЛУЦКІХ ПАЯСОЎ ЯК ТКАНІН. ЗБОР СЛУЦКІХ ПАЯСОЎ



Нрыгожасць тканін слуцкіх паясоў нярэдка прыводзіла да выкарыстання іх у царкоўным быту. З тканіны слуцкіх паясоў вырабляліся культавае адзенне і рэчы.

У музеях СССР маецца вялікая колькасць рэчаў царкоўнага ўжытку, якія зроблены з слуцкіх паясоў. Асабліва шматлікія рэчы каталіцкага царкоўнага ўжытку.

Часта сустракаюцца царкоўныя рэчы армяна-грэгар'янскага царкоўнага ўжытку, што зразумела, бо ярмяне мелі непасрэдныя адносіны да вытворчасці паясоў.[49]

Пасля таго як слуцкія паясы перасталі бытаваць, яны страцілі сваё прамое практычнае назначэнне. Аднак іх мастацкая каштоўнасць засталася нязменнай.

У XIX ст. слуцкія паясы робяцца прадметам збору сярод аматараў-антыквараў. Імі зацікавіліся як мастацкай тканінай, якая можа быць выкарыстана для дэкаратыўных мэт.

Пазней слуцкія паясы прыцягнулі да сябе ўвагу спецыялістаў-мастацтвазнаўцаў, якія заняліся вывучэннем іх як вырабаў мастацкага ткацтва.

У другой палавіне XIX ст. пачынаецца навуковае збіранне паясоў, атрымаўшае развіццё ў XX ст. Слуцкія паясы калекцыяніруюцца музеямі і асобнымі людзьмі. Паяўляецца попыт на слуцкія паясы. Нярэдка асобы, прадаваўшыя паясы, для атрымання большай выгады разразалі іх напалам і прадавалі кожную частку асобна або, наадварот, з кавалкаў сшывалі цэлы пояс або частку пояса.[50]

Багатая калекцыя слуцкіх паясоў мелася ў Нясвіжы — маярате князёў Радзівілаў. Пазней гэта калекцыя (32 паясы) была перададзена ў Беларускую Дзяржаўную карцінную галерэю і страчана ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Трэба таксама адзначыць калекцыю слуцкіх паясоў П. І. Шчукіна ў Маскве. Збіральнік перадаў сваю калекцыю ў дар Дзяржаўнаму Гістарычнаму музею.

У СССР буйнейшая калекцыя слуцкіх паясоў захоўваецца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі. Цікавыя таксама калекцыі слуцкіх паясоў Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў СССР, Рускага музея, Эрмітажа, этнаграфічнага музея ў Львове.

Народнае мастацкае ткацтва паясоў прыцягнула да сябе ўвагу і перадавой мастацкай беларускай літаратуры.

Рэвалюцыйна-дэмакратычная беларуская літаратура, цесна звязаная з народнай творчасцю, не забыла сціплых ткачоў. Максім Багдановіч у вершы «Слуцкія ткачыхі» ў паэтычных вобразах адлюстраваў сумны лёс народных мастакоў. Гарачай любоў'ю беларусаў да роднай прыроды прасякнуты радкі:

Там шчыры бор шуміць сувора...
Ты тчэш, бязвольная рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.





## ПРЕДИСЛОВИЕ



Среди различных видов прикладного искусства нашей страны художественное ткачество занимает одно из главнейших мест. Ковры, декоративные ткани для завес, обивки стен, мебели, скатерти, полотенца, постилки издавна украшали жилища людей. Большое внимание обращалось на ткани, которые шли на одежду и должны были украшать самого человека.

Ткацкие изделия различались по ценности материала, по искусству его обработки и по художественности выполнения ткани. Ткацкое искусство постоянно совершенствовалось в тонкости выработки, в красоте окраски и орнаментации. Ткани и различные тканые предметы — платки, полотенца и пр., вышедшие из рук искусного мастера, нередко достигали подлинно художественного уровня.

К числу изделий, в которых особенно проявлялось искусство ткача, относятся шелковые тканые пояса-кушаки.

Пояс-кушак составлял необходимую часть русской, украинской и белорусской одежды. Поэтому он имел большое декоративное значение и богато орнаментировался. Украшение одежды наиболее ярко выражалось в разработке колорита и орнаментации пояса.

Материал, размер и назначение пояса давали возможность мастеру-ткачу выявить свои художественные способности. Каждый пояс-кушак можно рассматривать как образец ткацкого мастерства своего времени.

В настоящее время в связи с ростом интереса к памятникам национальной культуры начато серьезное изучение слуцких поясов как образцов белорусского художественного шелкоткачества.

Имеющийся обильный материал по этому вопросу еще мало изучен. Литература по шелковым поясам-кушакам очень бедна. На русском и белорусском языках имеются только отдельные брошюры и статьи в различных журналах. Нет еще монографии по изучению поясов-кушаков, производившихся в нашей стране.

Вопрос об истории слуцких поясов является вопросом о роли белорусского народа в создании этих замечательных произведений декоративного прикладного искусства.

Изучение слуцких поясов имеет также и практическое значение. Расцветка поясов и их орнаментация, разработанные белорусскими мастерами XVIII в., могут быть с успехом применены в современной текстильной промышленности.

Народные мастера-ткачи обладали высокоразвитым чувством материала и его фактуры и в совершенстве владели техникой выделки. Поэтому техника выработки слуцких поясов представляет значительный интерес.

Особенно важно изучение поясов-кушаков для художников-прикладников. Овладение богатством колористики, свойственной народным мастерам, их искусством орнаментации может послужить делу обогащения нового народного стиля.

Перед советским прикладным искусством стоит большая, серьезная задача — создание советского народного стиля, отвечающего новым формам быта. Основными чертами этого стиля должны быть чувство современности, связь с народными традициями и совершенство выполнения. Изучение художественного народного ткацкого мастерства открывает возможности для его творческого освоения. Оно позволит нам отобрать из сокровищницы народного творчества то, что ценно для советского прикладного искусства.

Пояса-кушаки представляют собой богатый материал и для исследователя, занимающегося изучением ткацкого производства русского и белорусского народов.

Изучение этого материала позволит осветить и ряд других вопросов, в том числе культурные и торгово-промышленные связи между народами России, Белоруссии и Речи Посполитой, а также их связи со странами Востока и Запада.

Целью настоящей работы является выявление художественного ткацкого мастерства русского и белорусского народов. В центре исследования стоит вопрос о развитии производства шелковых поясов Белорусии — в Слуцке.

Материалом для работы послужили собрания поясов Государстенного Исторического музея в Москве, Государственного музея этнографии народов СССР и ряда других музеев нашей страны.

К работе прилагается значительный иллюстративный материал (в виде фотоснимков).

* * *

Как особенность терминологии следует отметить употребление терминов «пояс» и «кушак». Обычно при описании музейных экспонатов употребляется термин «пояс». Он применяется как родовое понятие и к кожевенным, и к металлическим, и к текстильным поясам. Между тем для обозначения широкого тканого пояса в русском языке привился специальный термин «кушак», заимствованный из татарского языка.

Мастера, изготовлявшие подобные пояса, назывались «кушачниками». Ткани, шедшие на кушаки, получили название «кушачных». *)

В русском документальном материале, относящемся к широким тканым поясам, употребляется термин «кушак», однако в музееведении к подобным поясам термин «кушак» не прилагается. Это объясняется тем, что шелковые пояса данного типа приписывались производству западных фабрик с главным центром в Слуцке и потому назывались слуцкими. Кушаки московского производства не были выявлены.

С установлением группы московских поясов, именуемых в документах «кушаками», возникла необходимость обозначать московские пояса термином «кушак».

В Белоруссии закрепилось выражение «пояс».

Так как в музейных инвентарных книгах употребляется термин «пояс», то в начале каждого описания этот термин сохранен во избежание расхождения с инвентарной описью.

---

*) См. «Толковый словарь» Вл. Даля.





## ЗНАЧЕНИЕ ПОЯСА В БЫТУ РУССКОГО И БЕЛОРУССКОГО НАРОДОВ




усское и белорусское народное декоративное искусство имеет общие корни, уходящие в глубокую древность. Внешние условия, оказывавшие некоторое влияние на формирование искусства каждого народа в отдельности, не могли нарушить его самобытности.

Народные мастера-художники творили на основе древних традиций. Они пользовались также иноземными образцами и приемами, подвергая их самостоятельной переработке. Примером такой самостоятельной переработки чужеземного образца могут служить тканые широкие шелковые пояса-кушаки, заимствованные с Востока.

Производство этих поясов-кушаков возникло почти одновременно в России и Белоруссии, центры — Москва и Слуцк. Развитие обоих производств шло независимо одно от другого. Пояса ткались народными мастерами-художниками. Русские и белорусские мастера, каждые по-своему, перерабатывали восточные оригиналы и придавали им свои национальные черты.

Однако, несмотря на внешнее различие, между московскими и слуцкими поясами имеется внутренняя общность. Она может быть выявлена только в процессе сравнительно-исторического изучения художественного ткачества обоих народов.

* * *

Пояс является неотъемлемой частью русской, украинской и белорусской народной одежды, как мужской, так и женской. Практическое назначение пояса состоит в том, чтобы удерживать одежду на стане.

В быту и в обрядности древней Руси значение пояса было очень велико. Об этом свидетельствуют многочисленные словообразования, обороты речи, связанные со словом «пояс». Например, «поясажней», т. е. повиднее, побольше; «распоясаться», т. е. потерять всякий удерж, распуститься, причем это понимается уже не только в прямом смысле, в связи с одеждой, но и в переносном отношении, нравственном. Так, в древнерусском стихотворении подчеркивается безнравственность поведения Марины Игнатьевны, принимавшей у себя Змея Горыныча:

А молода Марина Игнатьевна,
Она высунулась по пояс в окно
В одной рубахе без пояса.*)

С поясом связаны различные обряды, поверья, заговоры и гаданья.[1]

Самуил Коллинс, девять лет проживший в Москве при дворе Алексея Михайловича, пишет, например: «Русские почти во всех своих действиях отличны от других народов. Они носят рубаху сверх подштанников, препоясываются ниже пупа, потому что пояс, по их мнению, придает силы. Ни мужчины, ни женщины не ходят без поясов под страхом небесного наказания». **)

Эту особенность ношения пояса ниже поясницы еще ранее отметил Герберштейн. «Они (русские),— писал он,— подпоясываются не по животу, но по бедрам и даже опускают пояс до паха, чтобы живот больше выдавался. И этот обычай переняли теперь итальянцы, испанцы и даже немцы».***) [2]

В белорусской деревне обычай ношения пояса ниже живота наблюдался еще в конце XIX в. ****)

В Белоруссии пояс являлся жертвенным предметом, который приносился в дар по обету. Такие пояса поступали во множестве как «офяры» в церкви и костёлы — «жертвенные» пояса.

Среди обрядов, примет и предзнаменований существовал обряд «опоясывания» младенца через шесть недель после рождения.*****) [3]

---

*) Древние российские стихотворения, собранные Киршею Даниловым. Издание Суворина, М., 1878, стр. 155.

**) Нынешнее состояние России, изложенное в письме к другу, живущему в Лондоне, Самуила Коллинса (перевод Киреевского). «Чтения», кн. I, 1846, стр. 20.

***) Герберштейн. Записки о Московских делах. Издание Суворина, СПб., 1908, стр. 80.

****) Н. Я. Никифоровский. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии. Витебск, 1895, стр. 107.

*****) И. Снегирев. Русские простонародные праздники и суеверные обряды, вып. I, М., 1837, стр. 210.

Обычай «опоясывания» считался в народе отличительной русской чертой, свойственной также белорусам и украинцам. Зеленин говорит, что «великорусы называют мужчину без пояса в неодобрительном смысле — «беспоясный татарин...». Пояс служит талисманом, который мужчина должен прятать от черта, особенно же от лешего и домового».*) [4]

Пояс имел важное значение и в свадебных обрядах. «Выпила девица вина из бутылки, принесенной женихом, сняла с себя пояс, обмотала им ту бутылку и в таком виде возвратила сосуд принесшему — значит, согласна на брак, сделалась невестой, подписала контракт и за безграмотством узелком пояса указала место печати (в некоторых местах Великороссии этот обычай заменен посылкою жениху белого полотенца (ширинки.— *Л. Я.*) невестина рукоделья.**) Теперь она ни в каком случае не имеет права отказать жениху, который начинает производить затраты, готовясь к свадебному пиршеству».***) [5]

Значение пояса в быту видно и из того, что он играл большую роль в народных гаданьях.[6]

Пояс употребляется также как оберег во многих заговорах.[7]

В древности считали, что можно повредить человеку, произведя над его поясом различные колдовские действия. Например, после скоропостижной кончины супруги Ивана III Марии её приближенную Наталию Полуевктову подозревали в том, что она посылала пояс великой княгини к какой-то ворожее.****)

Были заговоры на поясе.[8]

Изготовлялись пояса из самых различных материалов: кованые из благородного металла — золотые и серебряные, из кожи («с ременем») со всевозможными украшениями, плетеные и, наконец, тканые.

---

*) Zelenin. Russische (Ostslavische) Volkskunda, Leipzig, 1927, стр. 221.

**) Вл. Даль. Пословицы русского народа, т. III, 1904, стр. 11.

***) Максимов. Крылатые слова. СПб., 1890, стр. 417.

****) Н. М. Карамзин. История Государства Российского, т. VI, 1892, стр. 7.





## ПОЯСА НА МОСКОВСКОЙ РУСИ



начение пояса в одежде московских людей было велико. В духовной грамоте Ивана Калиты, писанной в 1328 г., пояс упоминается на одном из первый мест: «А из золота дал есмь сыну своему Ивану («Красному»): чеп золоты, пояс большій с жемчугом, с каменьем, пояс золот с капторгами (застежками.— *Л. Я.*), пояс сердоличен, золотом окован».*)

Пояс служил и как отцовское благословение. Иван Красный в духовной грамоте, писанной в 1356 г., при передаче пояса старшему сыну Димитрию (впоследствии Донскому), отмечает это значение пояса: «пояс великий золот с каменьем с жемчуги, что мя благословил отец мой князь Великий».**)

В XV в. один пояс вызвал даже спор между членами московской великокняжеской семьи.[9]

В духовной грамоте Димитрия Донского мы видим целый перечень разных поясов, передаваемых им своим сыновьям. При этом здесь сообщаются и те

---

*) Духовная грамота вел. князя Ивана Даниловича Калиты (первая). Собрание государственных грамот и договоров, ч. I, стр. 32.

**) Духовная грамота вел. князя Иоанна Иоанновича (первая). Собрание государственных грамот и договоров, ч. I, стр. 40.

особенности, которые выделяют пояса, например данный сыну князю Петру — «с калитою да с тузлуки».*)

Пояс издревле являлся хранителем калиты, т. е. кошелька.**)

Здесь же мы встречаем своеобразное название пояса. Так, пояс, данный вел. князем Димитрием Ивановичем сыну князю Ивану, именуется — «татаур».***)

На поясе и за поясом носилось оружие.

В основном многообразные виды поясов производились русскими мастерами. В духовной грамоте Димитрия Ивановича упоминаются имена мастеров, изготовлявших княжеские пояса — «пояс Макарова дела», «Шишкина дела».****)

Тканые пояса на Московской Руси упоминаются еще и в других духовных грамотах.

На иконографическом памятнике древнерусской живописи конца XIII— нач. XIV в. — «Никола с житием» — имеется изображение «сточного» пояса. В клейме с темой казни трех воевод палач одет в алую рубаху, подпоясанную широким тканым белым поясом в черную полоску.*****) Это одно из наиболее древних изображений тканого пояса и способа его ношения.

Можно сказать, что на Руси в XIII—XIV вв., если не ранее, существовало производство тканых поясов.

Помимо поясов местного производства, на Московской Руси бытовали привозные пояса восточного происхождения — кушаки.

Пояса привозились на Московскую Русь из разных стран Востока.[10] Из восточных особенно широко были распространены пояса иранского происхождения. В XVI—XVII вв. славились кизылбашские — персидские кушаки (название по стране Кизылбаши — Персия). В XVIII в. получили известность также мечетские кушаки (название по городу Мешхет).******)

Торговля восточными поясами велась как русскими, так и иностранными купцами. Цена восточных поясов была весьма значительна. Например, в

---

*) Духовная грамота вел. князя Димитрия Иоанновича (вторая). Писана в 1389 году. Собрание государственных грамот и договоров, ч. I, стр. 61.

**) «Плату же, получаемую деньгами, завязывают (русские) накрепко в пояса свои». (Ибн-Даста. Книга сокровищ; Гаркави. Сказания мусульманских писателей о России).

***) Новое «катаур», у монголов «татаур» — пояс, затяжка, кожаный пояс, иногда шитый шелком и золотом, иногда с накладными металлическими украшениями, золотыми и серебряными.

****) Духовная грамота вел. князя Димитрия Иоанновича (вторая). Писана в 1389 году. Собрание государственных грамот и договоров, ч. I, стр. 61.

*****) Владимиро-Суздальский историко-архитектурный и художественный музей-заповедник.

******) Мешхет — крупный торгово-промышленный центр в провинции Хорасан (сев. Персия) — был известен своим ткацким шелковым производством, вел оживленную торговлю с народами Закавказья.

